# У ЧАКАНЬНІ

Людзі зь сялянаў і інтэлігенцыі, якія ў Польшчы, Літве, Латвіі, Эстоніі, Украіне і Беларусі ў другой палове 40-х гадоў сыйшлі ў лясы, — гэтыя людзі верылі ў хуткі прыход аб'яднаных сілаў заходніх дэмакратыяў. Грамадзяне, якія апынуліся ў Супраціве з-за таго, што камуна пазбавіла іх маёмасьці й элемэнтарных правоў, — гэтыя грамадзяне слухалі ў амэрыканкіх радыёпрымальніках навіны BBC, дзе абяцалася хуткая дапамога паняволеным народам. Толькі да лета 1946 году ў Беларусі органы НКВД канфіскавалі 47 радыёстанцыяў, "з дапамогаю якіх падтрымвалася сувязь з замежнымі антысавецкімі цэнтрамі"*. Значныя фармаваньні сялянскага Супраціву новай хвалі калектывізацыі былі разгромленыя ў Беларусі толькі да сярэдзіны лета 1952 г., але асобныя групы яшчэ працягвалі сваю дзейнасьць. У Польшчы апошняга ўзброенага партызана ўзялі ў 1966 г., калі той прыйшоў да дантыста.

Самае цікавае, што людзі з Супраціву дачакаліся прыходу заходніх альянтаў. Амаль усе краіны-партызанкі канца 40-х —пачатку 50-х гадоў сапраўды дамагліся сваіх мэтаў і цяпер патрабуюць ад Захаду прызнаньня. Паступова краіны Сярэдняй Эўропы уваходзяць у NATO. Але да гэтага моманту калясальныя рэсурсы былі прынесеныя ў ахвяру "халоднай вайне".

Цяпер мы зноў назіраем спробы паўтарыць падзабыты сюжэт — антызаходнія й антылібэральныя лёзунгі ператвараюцца ў Беларусі й Расеі ў дзяржаўную палітыку, з тэрыторыі Беларусі спыняецца вывад ядравай зброі, міністар абароны Расеі заяўляе пра намер разьмясьціць у Беларусі шматтысячную расейскую групоўку. Галоўнае адрозьненьне ад сытуацыі пяцідзясятых гадоў у тым, што мяжа супрацьстаяньня значна пасунулася на ўсход. Беларусь цяпер непасрэдна на гэтай мяжы.

Вось гэта й надае сытуацыі асаблівага драматызму — рэгіён расколваецца, парушаецца геапалітычная цэльнасьць Сярэдняй Эўропы. У ізаляцыі апынаецца Ўкраіна, значна абмяжоўваюцца магчымасьці балтыйскіх краінаў. Праблемы сыходзяцца на Беларусі. Яна той ланцуг, які можа злучыць рэгіён. Толькі цэльны рэгіён у стане заявіць пра свае спэцыфічныя эканамічныя й культурныя інтарэсы. Сярэдняя Эўропа ў шырокім, цывілізацыйным сэнсе зьяўляецца Захадам. У супастаўленьні з Заходняй Эўропай і Паўночнай Амэрыкай Сярэдняя Эўропа мае свае непаўторныя й спэцыфічныя рысы, сьціраньне якіх азначае страту ідэнтычнасьці.

Але сёньня рэгіён расколваецца, у тым ліку і праз дыскусію пра пашырэньне NATO. У найбліжэйшай пэрспэктыве магчымая рэалізацыя самых змрочных прагнозаў — да страты Беларусяй ужо толькі фармальных прыкметаў сувэрэнітэту. Зусім губляе сэнс ідэя нэўтралітэту: у нашым рэгіёне заяўляць пра нэўтралітэт — ужо значыць — быць залежным ад Расеі.

Глябальнасьць працэсаў, у якія ўцягваецца Беларусь, — гэта адначасова драма й паратунак нашай краіны. Гэта азначае, што пасьля эканамічнага краху сёньняшняй канфрантацыйнай палітыкі пытаньне дзяржаўнасьці Беларусі ўсё адно будзе пастаўлена на міжнароднай арэне.

А пакуль нас чакаюць радыёпрымальнікі. Бліжэйшая мэта беларускага грамадзтва, у адрозьненьне ад задачаў узброенага Супраціву канца 40-х — пачатку 50-х гадоў — ня даць разграміць ужо створаную інфраструктуру.

Алег Дзярновіч

* *Очерки истории милиции Белорусской ССР. – Менск, 1987.*

## Краіна

**БУФЭР.** Міністар абароны Расеі Грачоў заявіў, што ў Беларусі можа быць створана магутная расейска-беларуская ваенная групоўка. Падстава для гэтага – магчымае далучэньне Польшчы ды Літвы да NATO. Міністры абароны Расеі й Беларусі падпісалі 10 дакумантаў пра шчыльнае ваеннае супрацоўніцтва Менску ды Масквы. Сярод іх ёсьць дамова пра захаваньне ў Беларусі расейскіх вайсковых пляцовак. Грачоў сказаў, што Расеі напэўна давядзецца ўзмоцніць сваю заходнюю вайсковую групоўку. Масква адводзіць Беларусі ролю буфэра, што будзе абараняць заходнія межы Расеі.

**ВЫМІРАЕМ.** Сёлета ў першым квартале колькасьць памерлых на Меншчыне у 2 разы перавысіла колькасьць народжаных. А ў вёсках памерлых аказалася ў 3 разы больш за народжаных. У параўнаньні зь леташняй сытуацыяй нарадзілася на 9,2% менш і памерла на 14,5% больш. Не спрыяюць прыросту насельніцтва й разводы, колькасьць якіх перавысіла колькасьць шлюбаў на 3,9%. У параўнаньні зь леташнімі паказчыкамі было створана на 30,9% новых сем'яў менш, а разводаў стала больш на 5,7%.

**ДРУГОГА ТРАНШУ НЯ БУДЗЕ.** Апошнія падзеі ў Беларусі значна ўскладнілі адносіны зь Міжнародным Валютным Фондам ды Сусьветным Банкам. На мінулым тыдні экспэрты МВФ займаліся вывучэньнем эканамічнай сытуацыі ў Беларусі з мэтай падрыхтоўкі штогадовай справаздачы. Яны мелі дамоўленасьць на сустрэчу з Лукашэнкам. Але пасьля 40-хвіліннага чаканьня ім сказалі, што прэзыдэнт адмовіўся іх прыняць. Пасьля такога абыходжаньня пытаньне пра выдзяленьне Беларусі другога траншу крэдыту Stand by наагул зьнятае з парадку дня і бліжэйшым часам абмяркоўвацца ня будзе. Таксама наведалі Менск і прадстаўнікі Сусьветнага Банку. Банк згортвае сваю дзейнасьць у Беларусі. Паводле леташніх аб'ёмаў ягонай фінансавай дапамогі дзяржавам СНГ, Беларусь разам з Таджыкістанам апынулася на апошнім месцы.

**БЕРАСЬЦЕЙСКІ ШТЫХ.** У мэмарыяльным комплексе "Берасьцейская крэпасьць" можа абрынуцца 100-мэтровы штых. Гэтая 620-тонная бэтонная канструкцыя некалькі разоў падала яшчэ пры ўстаноўцы. Тады абышлося без ахвяраў, бо былі да гэтага гатовыя і рабілі захады дзеля бясьпекі. Да таго ж раней штых засьцерагалі адмысловыя дэмпфэрныя прыстасаваньні, што гасілі небясьпечныя хістаньні канструкцыі. Але за чвэрць стагодзьдзя яны нагэтулькі выпрацавалі свой рэсурс, што іх трэба тэрмінова мяняць. Праблема толькі, дзе ўзяць грошы.

**ЛЮДЦЫ, РАТУЙЦЕ!** 14 траўня слынны кінарэжысэр Віктар Дашук праводзіў здымкі пікету ў абарону Юрыя Хадыкі ды Вячаслава Сіўчыка. Адзьняўшы патрэбны матэрыял, група В.Дашука скіравалася на кінастудыю "Беларусьфільм". У раёне скрыжаваньня вуліцаў Няміга й Рамаваўская Слабада да іх падляцела машына, зь якой выскачылі міліцыянты, схапілі апэратара з камэрай у сумцы ды пачалі запіхваць у машыну. Са словаў сьведак, міліцыя яўна мела намер справакаваць сутычку і затрымаць групу. Ведаючы з папярэдніх падзеяў, чым гэта пахне, В.Дашук пачаў клікаць на дапамогу людзей, што стаялі побач, на прыпынку: "Людзі, мы журналісты! У нас хочуць адабраць камэру!" Натоўп кінуўся на дапамогу ды адбіў апэратара. Міліцыянты, не рызыкнулі схапіцца за зброю і хуценька зьехалі.

"Наша Ніва"
незалежны тыднёвік
НАША НІВА
заснаваны ў 1906,
адноўлены ў 1991
заснавальнік і выдавец — Павал Жук
рэдактар — Сяргей Дубавец
адказны сакратар — Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар — Сяргей Харэўскі
навіны — Уладзімер Бараніч
рэдактар дадатку "Інфарматар" — Андрэй Лапценак
макет — Віктар Корзун
мантаж — Лявон Раманчык
набор — Тацяна Чуйвід
стыліст — Антось Кузьміч
карэктура — Сяргей Сматрычэнка
пры ўдзеле — Сяргея Шупы
прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі (тэл. 56-94-36) — Зьміцер Бартосік
**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ**
**220123 Менск, а/с 71**
**Тэл./факс 36-76-75**
**Падпісны індэкс 63125**

**СТАТЫСТЫКА**

# У Беларусі хочуць Андропава

Найбольшую заклапочанасьць у жыхароў Беларусі выклікае рост цэнаў. Пра гэта заявілі 67,7% рэспандэнтаў апошняга апытаньня, якое правёў інстытут Белінфармпрагноз пры Адміністрацыі прэзыдэнта. Другі клопат насельніцтва — злачыннасьць (54,1%), затым — адсутнасьць сацыяльнай абароны (48%), рост беспрацоўя (44%). На думку апытаных сацыяльная напружанасьць у нашым грамадзтве можа быць зьнятая: праз падпісаньне дамовы Беларусі і Расеі (56,5%), праз актыўную сацыяльную абарону насельніцтва (48%), праз умацаваньне законнасьці і правапарадку (40,3%), праз дзяржаўны кантроль і рэгуляваньне (25,2%).

Цікава, колькі яшчэ трэба падпісваць дамоваў з Расеяй, каб людзі пераканаліся, што гэта не панацэя, адмовіліся ад утрыманскіх настрояў і паверылі ва ўласныя сілы? Мабыць, шмат. Таму што калі ў лютым-сакавіку за інтэграцыю з Расеяй выказваліся 59,2% апытаных, то ў красавіку іх стала 67,6%.

Каму ў Беларусі належыць улада? Прэзыдэнту? Не, ён на другім месцы (25,5%). Бізнэсмэнам? Яны — трэція (7,8%). У Вярхоўнага Савету (1,7%) улады амаль столькі ж, колькі і ў народа (1,2%). А на самой справе намі кіруюць карумпаваныя структуры (33,7%). Вось бы яшчэ нехта назваў канкрэтных карупцыянэраў. Але гэта ў задачы апытаньня не ўваходзіла.

Большасьць — 35,2% — мяркуюць, што неўзабаве ў краіне адбудзецца сацыяльны выбух, а 28,9% — што сытуацыя застанецца спакойная.

На пытаньне: Якога кшталту палітык здольны вывесьці новыя незалежныя дзяржавы (рэспублікі былога Саюзу) з крызысу? — 30,4% апытаных аддалі перавагу Ю.Андропаву, 17,6% — І.Сталіну, 12,7% — Б.Ельцыну, 10,3% — Ул.Леніну.

(...)

*Натальля Бабіна*

# АДДАЦЬ НАЛЕЖНАЕ

Аддаць належнае – гэта значыць, ня толькі сказаць гадаўцу – "гадавец", але й добраму чалавеку – "добры чалавек".

Здараюцца гадзіны – вось як гэтая начная – калі ня хочацца ні думаць пра будучыню, ні ўспамінаць мінулае. У час, блізкі да сьвітаньня, аддаю належнае. Цяпер, калі горадам валодае стома, а трава расьце надзвычай хутка, думкі зьвяртаюцца да нас – усіх, каму год з 14 траўня да 14 траўня пазначаны думкамі ня з простых і справамі ня зь лёгкіх, роспаччу, а то й крывёю. Цяжка жыць – але ж мусіш. Хто гаворыць, што нас мала? Хлусіць.

У гэты начны час хочацца знайсьці нейкія асаблівыя, цёплыя і пранікнёныя словы. Хочацца назваць спадара Зянона Пазьняка так, як ён таго заслугоўвае – нацыянальным героем, ды глыбока пакланіцца яму за мужнасьць і нязломнасьць. Усе хлусілі калі-небудзь (маю на ўвазе людзей пры ўладзе або палітыцы) – ён ня хлусіў. Як казаў заўсёды: "незалежнасьць – галоўнае", так і кажа сёньня. Як казаў "Беларусь любая", так і кажа. Ён чуе голас Бога і зямлі – такіх людзей адзінкі, і дзякаваць Богу, што ён ёсьць у Беларусі. За ім справядлівасьць, ён ведаў гэта заўжды, і ўлада патрэбна яму таму, што ён хоча долі для Беларусі...

Два гады таму людзі, слухаючы, думалі: "Не, нацыяналісты нам не патрэбныя, лепш Лукашэнка – наш, просты чалавек, знае нашу праўду". Ды што – памятаю сябе двухгадовай даўнасьці: муж сёрбае боршч пад палкую прамову, а я, тыкаючы палонікам у радыё: "Не, не кажы, гэты чалавек ведае, як даяркам падымацца ў чатыры гадзіны раніцы, ён знае, як баляць у жанчын сьпіны на бураках – ён хоча справядлівасьці..." Цяпер сорамна за сваё глупства, ды вельмі ўжо словы былі правільныя. Толькі ўсё гэта аказалася хлусьнёй. Так, людзі падмануліся. Але які б зграбны ня быў махляр, ашуканства ня можа доўжыцца вечна. Абражаныя падманам зноў пойдуць шукаць праўду. І прыйдуць да Пазьняка. Зразумеюць, што толькі нацыяналісты нам і патрэбныя, што толькі яны змогуць даць і дабрабыт людзям, грамадзянам дзяржавы, і спакой зямлі. Чалавек, які мае душу і дзіця, ня можа ня стаць нацыяналістам. Але навошта нам, беларусам, станавіцца нацыяналістамі расейскімі, – якімі нас хочуць цяпер зрабіць? Лепш, больш натуральна стаяць за сваё, беларускае...

Так, як стаяць за ўкраінскае ўкраінцы. Зь пяшчотай і павагаю думаю пра тых украінскіх хлопцаў, што церпяць у турме за нашу волю. Якія ж яны, на халеру, экстрэмісты?! Яны – мужныя, рашучыя, сапраўдныя мужчыны, якія ведаюць, што баязьліўцы баяцца моцных, і знаюць, што машыны, якія ставяць на шляху людзей да справядлівасьці, ТРЭБА перакульваць. Дзякуй вам, дарагія! Самае шчасьце Ўкраіны, што мае такіх сыноў – сыноў, імёны якіх цяпер будуць памятаць і ў Беларусі.

Ня даць затаптаць годнасьць, не дрыжаць, патрабаваць свайго – за гэта арыштавалі 200 чалавек. І яшчэ за беларускія словы на вуліцах. Знаю толькі некаторых. Хочацца знаць усіх – каб таксама падзякаваць.

І, Божа, як жа страшна за тых, хто трымае галадоўку. Так, іх паводзіны – прыклад, гэта – квінтэсэнцыя сумленьня ўсіх, хто ішоў за імі ў калёне, але як страшна за іхныя жыцьці... І што можна дадаць да фразы Вячаслава Сіўчыка: "Выбачайце, але я буду галадаць да канца"?..

... Хутка разьвіднее – ізноў дзённыя клопаты, ізноў будзем шчыраваць дзеля бабуль ды дзяцей. І ўсё ў нас атрымаецца. Усё выйдзе як сьлед.

І ў тых, хто ніколі ня кажа "рэспубліка", а кажа "краіна". І ў таго, хто 12 траўня ўзьняў над Віцебскам нацыянальны сьцяг. І ў тых, хто думае. І ў тых, хто дзейнічае. І ў тых, хто ваюе з атамнымі электрастанцыямі і зьбірае ў лесе сьмецьце. І хто поле буракі. Бо мы не баімося ніякай працы і ўмеем працаваць. І праўду знаем.

*Ганна Матусэвіч*

# КОЙДАНАЎСКІ ДЫЯРЫЮШ

8.05. Пачула апляДысмэнты са сьвяточнага паседжаньня і ўспомніла, як у маленстве, за Хрушчовым, пачуўшы такі самы гул, пыталася ў бацькоў, ці не заводзяць гэта трактар.

Пашкадавала Лукашэнку, калі той выціраў лысіну. Міколка спытаўся: "Чаго ты шкадуеш, ты ж ня дружыш зь ім?" Шкадую...

9.05. Летась у парку на народным гуляньні частавалі грэцкай кашай з катла. Смачная была! А сёлета – панцак. Маладыя жаўнеры падавалі людзям міскі, кажучы, што абрыдла ім гэтая каша...

10.05. Садзілі бульбу ў цёткі. Прыйшоў мой нежанаты брат-п'яніца, яшчэ малады хлапец. Просіць, каб памагла садзіць за яго, бо ён зусім аслаб.

– Мне й стыдна, але ж не магу.

– Нічога, ідзі паляжы.

Яго цягне на філязофію: "І саўсім скромным быць няможна, бо задзяўбуць. Што тваё – тое бяры поўнасьцю... Калі ня ўкраў, а за свае грошы выпіў – ідзі спакойна дадому. А то і ў канаве перасьпіш – Бог папільнуе".

11.05. Міколка вымаўляе замест "чарвяк" – "чаўляк", а Вераніка кажа "маўпа" на малпу. Гэтыя гукі мне здаюцца Боскімі, бо чую іх ад дзяцей.

12.05. Сёньня мы ўсёй сям'ёй на роварах езьдзілі ў Крысава ў адведкі да Альфрэда Радзюка – таго самага паэта Алеся Салаўя, які памёр у Мэльбурне (Аўстралія) ў 1978 годзе. Далі маху, паехаўшы на Станькава. Уздоўж дарогі на шыльдах праплывалі двойчы забітыя вёскі: Кляноўка, Рабінаўка, Маліназўка. Першы раз яны былі спаленыя немцамі, пасьля вайны й самыя назвы іх былі сьцёртыя з нашай зямлі бальшавікамі. Ёсьць яшчэ Сасноўка, Вінаградаўка, Арэхаўка, Вішнёўка, Цьвяткова, але макаўкай бальшавіцкай думкі мабыць трэба лічыць Марс ды Юпітэр. Папраўдзе: няма

такіх крэпасьцяў, якія бы не ўзялі бальшавікі! Паміж Рабінаўкай ды Малінаўкай – вялізная звалка. "О, поле, кто тебя усеял мёртвыми костями?" У занядбаным станькаўскім парку гароціліся сьвіран, скарбніца (некалі багатая бібліятэка!) ды альтанка графа Чапскага. На падсьлепаватай хаце Марата Казея была прыбіта шыльдачка. Побач жахалі руіны Нікольскай царквы пабудовы 1858 году, разбуранай нэабарбарамі яшчэ да вайны. Шыльды на руінах не было. Між іншым, у Койданаве на падмурку разрабаванага Кальвінскага збору даўмеліся хоць задкім розумам паставіць, здаецца пазалетась, стары бэсэсэраўскі ахоўны знак.

Паблукаўшы па расхрыстаных вёсках, мы нарэшце трапілі ў Крысава. Хаты не сказаць, каб зачуханыя. І вуліца асфальтаваная, але яна нейкая можа занадта разложыстая, бо страчвае мілую вясковую ўтульнасьць. І рака Ўса нічога ня кажа майму сэрцу, мо' таму, што я бачыла Нёман і Дзьвіну.

У вёсцы ніхто ня ведаў Радзюкоў, толькі старэнькая бабка Лукашэвічыха ўказала мне на іхную хату. Пасьля 37 году, калі схапілі Альфрэдавых бацькоў у гэтай хаце даглядала меншых Лёўку ды Ўладзю сястра бацькі Васіля Раманавіча – Шабуніха. Альфрэдаву матку звалі Марыя Сяргееўна. Старэйшыя Альфрэд з Алай жылі ў Бярэжы. Уладзя пад час вайны загіне ад выбуху гранаты, якую прывалачэ на свой панадворак. А Лёўка стане, здаецца, дырэктарам цацкавай фабрыкі ў Менску. Гадоў з шэсьць, як запнуў разам з жонкай у аўтакатастрофе. Ала скончыць унівэрсытэт і выйдзе замуж за вайскоўца, які пасьля, даведаўшыся, што ейныя бацькі рэпрэсаваныя, кіне яе. Яна выйшла замуж другі раз, жыве цяпер у Харкаве. Яна, кажуць, захоўвае ўсе лісты, фатаздымкі, кнігі брата. Мне паказалі фатаграфію Алінага сына ў падлеткавым узросьце. (Ён ажаніўся, цяпер жыве ў Горадні). Сказалі, што надта ж падобны да свайго дзядзькі Альфрэда. А той у маладым веку быў надта падобны да габрая, за што яго ледзь не расстралялі немцы.

Цяпер Шабуніха памерла, і ў той хаце жыве былы дырэктар (цяпер пэнсіянэр) Коскаўскай школы Бохан Серафім Гаўрылавіч. Хату ён падладзіў, яшчэ выштукаваў невялічкае лецішча на панадворку.

Збольшага пра Радзюкоў мне расказала дырэктарава жонка, пасьля таго, як я паказала ей "пропуск", назваўшы імя асьветнікападзьвіжніка Яна Пятроўскага (ведама ж, яно ім невядома), які выслаў мне ксэракопію радзюковых лістоў да яго. Лісты, праўда, не прыйшлі яшчэ. Наагул, даўно няма ніякіх зьвестак пра Яна Пятроўскага, і я ўжо бядую аб ім.

Дзівіліся, чаго гэта мне, ні сваячцы, ні пісьменьніцы, простай жанчыне, патрэбен гэты Радзюк. Пасьля падказалі мне, што ў Забалаці жыве ягоная стрыечная сястра – Лойка Люця, Шарык пасьля замуства. Мы зьезьдзілі й туды. Люця з Альфрэдам з аднаго году: 22-га. Яна добра выглядае, ейная хата – горш. Некалі яны разам з Альфрэдам вучыліся ў адной клясе ў Койданаве. Брат сядзеў 2 гады ў 6-ай. Запусьціў нейкі прадмет, аддаўшы перавагу літаратуры. О, як ён захапляўся кнігамі! І ў бібліятэцы быў запісаны, і дзьве шуфлядкі меў дома, запёртыя на ключ. І гора было таму, хто хоць пальцам крануў ягоны скарб! Вершы (толькі па-беларуску!) пачаў пісаць у 6-ай клясе; на літаратурных вечарах у школе быў першай асобай. Хлопцаў-дружбакоў каля яго не было відаць. Паказвала сястра фатаздымак ягонай паненкі – Лашнец Валі, жонкі ягонай – Зіны Баразны. Зіна аднекуль зь Віцебшчыны, прыяжджала ў Менск за Брэжневым. Люся яе бачыла. Люся пісала брату лісты па-расейску, а той яе за гэта дужа бэсьціў. Люся была выведзена ў Нямеччыну, там стрэлася з братам. Альфрэд даў ёй сваю кнігу вершаў. Прасіў, каб захавала на радзіме, бо сам ня меў ніякай надзеі вярнуцца... А што ж сястра? У яе не захавалася ніводнага братавага ліста. А кнігу братавых вершаў яна са сваёй маткай пэўна спаліла, калі гналі самагонку, бо не было ніякай паперы...

Гэтая жанчына ўсё войкала, гледзячы на мяне, мужа, ды трох нашых урвінцаў і ніяк не магла паверыць, што мы прыехалі да яе па сваёй ахвоце. Але ці можна папракаць яе ў нечым, калі й сьвятары падчас навалы палілі сьвятыя кнігі, калі я й сама толькі нейкім цудам уратавала ад гібелі кавалачак бабчынага ручніка з вышытымі крыптонімамі "AM" – Adalfina Matusevič.

Да Алеся Салаўя я прыяжджала дзеля аднаго ягонага верша, які называецца "Максім Багдановіч".

*Далёка ад зямлі прадзедавых загонаў*
*Ён песьціў у душы гармонію паўтонаў.*
*Ды сэрца рвалася на волю, на прастор –*
*Туды, дзе чуў лясун, шумеў спрадвечны бор,*
*І сон вадзяніка, і зорных ночаў лоні,*
*Мінуўшчыны сьляды, і коньнікі Пагоні,*
*Мадоннаў вобразы, случанкаў паясы...*

Шкадую адмысловага пасачка, які я згубіла па дарозе з Забалоці да Койданава. Доўгі такі, жаўтавата-зелянкавы. Пад колер травы. У траве й ляжыць. Ім я падперадвалася, бо схуднела апошнім часам, і штаны на мне не трымаюцца. Трэба купіць адмысловую дзягу, калі ня слуцкі пояс.

А мо яшчэ вярнуся ў Крысава?

13.05. Увесну асабліва сумна ў маленькім запыленым мястэчку Койданаве, і я ўжо ўсур'ёз думаю аб вялікім падарожжы.

... Можа гэта й жорстка, але я малю ўсемагутнага Бога, каб Ён даў сілы нашым Мужчынам Сіўчыку ды Хадыку выцерпець гэтую ношу, што яны на сябе ўзвалілі. Выцерпець да канца. Бо толькі ў змаганьні духам бачу нашае выратаваньне.

*Лявон Вольскі*

# РАЗЬВІТАНЬНЕ З РАДЗІМАМІ

Ты заўважыў, што твая радзіма мае цікавую ўласьцівасьць – яна ўвесь час зьмяняецца? Заўчора ты меў радзіму, дзе людзі жылі двума жыцьцямі. Першае жыцьцё – партыйнае (камсамольскае). Другое жыцьцё – пры газавай пліце, пад бутэльку гарэлкі. Шчыраваньні пра тую ж партыю (камсамол). Ты слухаў розныя варожыя "галасы", але мала каму мог (і хацеў) распавесьці пра гэта. Ты быў хрышчаны, але ніколі не хадзіў у царкву (касьцёл). Таму што ў гэтыя ўстановы ходзяць адны бабкі. І, крый Божа, на падыходзе да царквы (касьцёлу) цябе б заўважыў твой супрацоўнік (супартыец). Сур'ёзныя непрыемнасьці былі гарантаваныя.

У тае твае радзімы была нейкая гісторыя, але надта ўжо цьмяная й зьвязаная зь дзьвюма рэчамі. Па-першае, з клясавай барацьбой. Па-другое, з грунтоўнай ды дасканалай гісторыяй тваёй вялікай радзімы. Гэтую вялікую гісторыю ты вывучаў у школе раней, чымся гісторыю радзімы малой. Таму й ведаў лепей.

Але прысьпеў час, і твая тая радзіма сыйшла ў нябыт. Узьнікла новая радзіма. Яна істотна адрозьнівалася ад папярэдняе. Цяпер ты мог казаць што захочаш. Прапагандаваць любыя свае палітычныя (сэксуальныя, культуровыя) прыхільнасьці. Вызнаваць рэлігію. Таму ты кінуў непатрэбную партыю, пачаў хадзіць у царкву (касьцёл), на мітынгі, дэманстрацыі ды актыўна галасаваць.

Зрэшты, табе гэта хутка надакучыла. Год, два... Колькі ж можна. Ты "завязаў" зь мітынгамі, дэманстрацыямі. Ты нават не хадзіў на выбары. Ты а) пачаў актыўна зарабляць грошы; б) кінуўся ў чыстую творчасьць; в) пачаў лаяць усіх, хто ва ўладзе й побач зь ёю; г) пачаў піць, заблытаўся ў жыцьці.

Тым часам незаўважна, як у непрыстойнай показцы, падкралася трэцяя твая радзіма. І пачаліся такія справы, што ты ўжо хацеў схадзіць у царкву (касьцёл), паставіць сьвечку па папярэдняй радзіме. Настолькі шкадаваў, што яна зьнікла. Вось дзе ты зразумеў, што дарэмна не хадзіў на мітынгі й выбары. Але позна. Цяпер нават ня той час, калі можна быць у партыі, а за вочы партыю ганіць. Цяпер усё на далоні. Альбо з кіраўнічай лініяй, альбо не. Калі зь ёй – ты маеш шанец. Але невялікі. Бо кіраўнічая лінія непрадказальная. Пад яе надта цяжка падладзіцца. Увесь час ляцяць галовы, твая ад гэтага таксама не гарантаваная. Страшна. Калі ж супраць плыні – наагул, невядома чаго чакаць – а) высылка (гэта някепска!), турма (барані Божа!), рознае ступені цялесныя пашкоджаньні (вельмі непажадана), безграшоўе (звыкла). Што ж рабіць?

Мяркую, што ты сядзеш пры газавай пліце й лядоўніку (старая звычка), пачытаеш "варожую" прэсу, паглядзіш "НТВ", ціха паабураесься дый будзеш сабе чакаць зьяўленьня новае радзімы. Толькі ж невядома, калі яна ўзьнікне. Ці дажывеш? А калі ўзьнікне, дык якое аблічча будзе мець?

Глядзі, бо раптам зьявіцца новая радзіма, якая забярэ ў цябе тую газавую пліту, твой лядоўнік, твой пераносны тэлевізар. І самога цябе закіне туды, дзе ты ніколі ня быў і куды ніколі ня ймкнуўся.

Зрэшты, не хвалюйся. Час працуе на цябе. Міне гадоў 20 (30), ты пойдзеш на пэнсію (вернесься з эміграцыі). Як вядома, "старикам везде у нас почёт". Таму ты займееш гарантаванае дзяржаўнае забесьпячэньне й на сустрэчах з вучнямі малодшых клясаў будзеш доўга й пераканаўча распавядаць пра тое, як у цяжкія гады набліжаў сьветлую будучыню. Чакай. Засталося ня так ужо й шмат.

*Тацяна Сьнітко*

# ЧЫРВОНАЕ І БЕЛАЕ

Год таму, напрыканцы траўня, прырода і жыцьцё падаравалі мне на дзень народзінаў дзьве нязвыклыя рэчы. Белую і чырвоную. Адна была прыгожым фонам, другая – чырвонаю ніткай... Па-першае, дзякуючы нязвыклым травеньскім халадам, да майго сьвята хоць раз не адцьвілі сады. Па-другое – 14 траўня, рэфэрэндум... А яшчэ праз паўгода была тыднёвая камандзіроўка ў Грозны.

Пачалося ўсё аднойчы ранкам. Зазьвінеў тэлефон. Знаёмы загаварыў нейкім нязвыклым голасам: "Прыяжджай хутчэй! Мой сябра вярнуўся. З дому. Зь вясельля", – удакладніў ён так, нібыта гаворка йшла пра пахаваньне.

Я чула, што ў іх дома – недзе там на Каўказе – ужо колькі гадоў пастрэльвалі.

На мяжы Чачэніі з Інгушэціяй Алікаў сябар гасьцяваў у сястры. У дзень, калі дзяўчына выходзіла замуж, на шляху зь сяла ў сяло ён натыкнуўся на рэфрыжэратар з трупамі. Неапазнанымі. Хлопцы сьцьвярджалі: гэта былі "зьніклыя бязь вестак" фэдэралы. Пасьля сьмерці іх кінулі ў глухім месцы. Нават не як хрысьціян...

Яны абодва доўга тлумачылі мне, што ніводная наша газэта ня стане пра гэта пісаць. Бо прэса ў нас цяпер "прарасейская". Бо тыдзень таму мой народ выказаўся за тое, каб быць "Расеяй". Народ, лічылі хлопцы, здрадзіў сам сабе, а ў іх такіх людзей вельмі не паважаюць...

У горадзе тым часам ужо на ўсю моц гучала слова Будзёнаўск. А неўзабаве гром з Чачэніі грымнуў вельмі блізка – у доме насупраць. Аднаклясьнікі сястры сьвяткавалі пяцігодзьдзе сканчэньня школы. Сьвята было сапраўды са слязьмі на вачах. Прычынаю таму быў любімец клясы Дзімка. Роўна за чатыры месяцы да рэфэрэндуму яго прывезьлі ў цынкавай труне з Чачэніі.

У 94-м, яшчэ да пачатку вайны ("падзеяў", як доўга яшчэ пісалі газэты) у абарону цэласнасьці Расеі, Дзімка тлумачыў бацькам, чаму не вярнуўся дадому, у Беларусь. У яго быў выбар: альбо дыплём афіцэра і служба ў Расеі – альбо шлях на радзіму з даведкаю, што ты "праслухаў курс"... Многія тады кідалі войска. Але былі й такія, хто да гэтай прафэсіі ставіўся менш абыякава. Нават марыў зь дзяцінства і не расчараваўся.

Дзіма Рудой належаў да апошніх. І калі напачатку сьнежня 94-га іх адпраўлялі ў камандзіроўку на Каўказ на паўгода, ён ня ведаў, што йдзе ў першым шэрагу...

Вайскоўцы і шафёр, якія прывезьлі да бацькоў труну, распавялі, што некалькі першых дзён 95-га ў Грозным быў "беспредел". Трупаў было вельмі шмат. Ніхто іх не лічыў і не зьбіраў. Як загінуў Дзьмітры, 21-гадовы расейскі афіцэр зь Беларусі, яны ня ведалі. Ніхто ня ведаў нават, у які дзень. Недзе паміж 1-м і 13-м студзеня...

Дадам яшчэ, што пра Дзімкавых бацькоў ніхто і ня згадваў. Неяк пазваніў толькі адзін зь яго былых камандзіраў з Карэліі.

Паводле розных зьвестак, лік беларусаў, што загінулі ў "чачэнскім катле" толькі з аднаго фэдэральнага боку – каля дзесяці. У Мінабароны Беларусі мне сказалі, што пра іх нічога ня ведаюць. У камітэце салдацкіх маці Расеі ведаюць толькі пра тых, хто туды зьвяртаецца, а зь Беларусі зваротаў не было. Бацькі салдатаў, што шукалі сыноў сярод трупаў у рэфрыжэратарах Растова й Грознага, называць колькасьць забітых у 4-5 разоў большую, чым даецца ў афіцыйных расейскіх крыніцах. 8-10 тысячаў – прыблізна падлічылі яшчэ ў лютым тыя, хто бачыў на свае вочы...

У сьнежні стары дзядуля-чачэнец, адзін з былых уцекачоў, што вярталіся ў Грозны і навакольле, сказаў пра Беларусь:

– Ваша краіна фашысцкая! У вас – дыктатура.

Я моўчкі не пагадзілася, сьпісаўшы радыкалізм на аддаленасьць ад нашых рэаліяў, на стомленасьць, на эмоцыі ваеннай атмасфэры (паветра там, праўда, больш чыстае, але ўсьмешкі людзей – маска спакою; з тымі, хто ад'яжджае на дзень-два, разьвітваюцца, як назаўсёды – на ўсякі выпадак).

Вось сытуацыя: аўтобус зь мірным насельніцтвам стаіць усю ноч у полі, бо пастрэльваюць зь лесапаласы "невядомыя ў камуфляжы" (перад намі расстралялі машыну, усе чацьвёра пасажыраў загінулі)... Ходзяць чуткі, што журналістаў дэпартуюць, нас да пары хаваюць паміж клункаў... А тут фашызм – у нас, у мірнай Беларусі! З такой нагоды ўва мне прачнуўся радыкальны патрыятызм ("хоць якое, але наша"). А праз месяц "хоць які, але наш" прэзыдэнт на ўвесь сьвет захапляецца парадкам, што навёў Гітлер! (Каб крывадушна дагадзіць нямецкім журналістам? Дык гэта яшчэ горш, чым шчырасьць у любові да фюрэра!)

А яшчэ праз месяц у маскоўскім цягніку разгаварылася з хлопцам-беларусам. Лётчык. Служыць у Расеі, бо там працаваць цікавей. Ужо прывык да сібірскіх мясьцінаў, амаль радзіма. Адзіная непрыемнасьць – даводзіцца часам лятаць у Чачэнію. Пакуль быў двойчы і нядоўга (пару тыдняў). Не, ён сам не страляў – перавозіў грузы для фэдэралаў. Абкладалі ўсю кабіну мяшкамі й матрацамі... Ён ставіцца да гэткай працы, як да ня вельмі прыемнай неабходнасьці – як да мыцьця падлогі, напрыклад. Пра вяртаньне ў Беларусь ня думае, бо тут, "няма дзе лятаць".

На зваротным шляху – размова з выпадковым спадарожнікам-масквічом. Ён едзе, як дарагі госьць, бо (прагаварыўся!) працуе ў расейскай дзяржбясьпецы. Спытаў, хто такія мы, суседзі па рэстаране. Я сказала, што журналістка (навошта мне слухаць іхныя дзяржтаямніцы?!) Спужаўся. Спытаў, чаму ўсе ня любяць масквічоў. "Ня бачыла дрэнных масквічоў!" – "Дзякуй!" Божа, ды за што?!

Ён пачаў апраўдвацца за тое, што толькі што нам сказаў (як я зразумела, задоўга да ўсялякіх пагадненьняў расейскія спэцслужбы апанавалі заходнюю беларускую мяжу): трэба баяцца пашырэньня на ўсход усім вядомага NATO...

– Здраднікі яны, палякі! Я ўвогуле іх усіх цярпець не магу! – Як высьветлілася, ён ня мог таксама цярпець "хахлоў", "прыбалтаў" і "каўказцаў". Ад першых трох беларусам трэба адгарадзіцца каменнымі мурамі! Пра апошніх ён сказаў: трэба выселіць з Каўказу расейцаў і ўсё спаліць!

Мы не спрачаліся. Проста пра "хахлоў" я казала, што яны мае сваякі, пра палякаў – што студэнцкія сябры, пра прыбалтаў – хлусіла, што "адтуль мая бабуля". Чаму не зрабіла сябе чачэнкаю па дзеду? Не пасьпела, бо ён пачаў... прызнавацца ў любові да беларусаў! Беларусь – краіна, дзе ён адпачывае душой. Беларусы – сябры Расеі. Беларусаў ён гатовы ўсіх расцалаваць – ад нас да Лукашэнкі...

Мы з маім земляком засьмяяліся.

– Чаго вы? – пакрыўдзіўся масквіч.

Мае сваякі жывуць ажно ў шасьці расейскіх гарадах. Але расцалаваць усю гэтую краіну (папрасіла я прабачэньня ў суседа) ня маю ніякага жаданьня!

Ён раззлаваўся. І выкрыў маю подлую сутнасьць так:

– Значыць, ты – беларуская фашыстка?

У Грозным нехта абмовіўся расейскім калегам пра Грозаў. Пра Слуцкае паўстаньне.

Ня ведаю, ці буду калі-небудзь успрымаць 23 лютага як сьвята. Мае менскія знаёмцы з Інгушэціі ды Чачэніі адзначалі ў гэты дзень дзьве чорныя даты. У адзін дзень і год з утварэньнем Беларускай Краёвай Абароны пачалася дэпартацыя іхных продкаў. Алікаў дзед, напрыклад, быў натхняльнікам сваіх землякоў у Казахстане. "Мы вернемся!" – паўтараў ён, і нянавісьць да тых, хто чыніў несправядлівасьць, перамагала ў гэтым чалавеку голад, нястачу і пакуту 50-градусных маразоў. Але ён так і не дажыў да вяртаньня на радзіму.

У Чачэніі мясцовыя жыхары да беларусаў ставіліся прыязна (хлопцы - белыя "баявікі" распавядалі пра двух нашых землякоў, якія ім дапамагалі бараніць незалежнасьць – ні халеры не зразумелі ў беларускіх дакументах, акрамя назвы краіны). У Менску Алікавы сябры доўга разглядалі здымкі. Яны называлі вёскі й гарады і пыталіся, што зь імі цяпер.

Як і многія мусульмане ў Менску, яны задавалі пытаньне, на якое я не магла адказаць, бо мне было сорамна:

– На кожным кроку чуеш: нерусский, нерусский... Чаму я павінен абавязкова быць расейцам?!

23 лютага, калі другі дзень бамбілі вёскі на памежжы Чачэніі і Інгушэціі, хлопцы сказалі: эх, каб ня справы ў Менску –паехаць бы ваяваць! Тры дні таму нехта цікавіўся, ці прымуць яго ў нашу навучальную ўстанову...

Падставай для эмацыянальнага ўсплёску сталася яшчэ адна кропля:

– Памятаеш?.. – мне назвалі імя хлопца, які тыдзень таму зьехаў дадому. – Яго забілі. У цэнтры Грознага. Снайпэр... Ён проста вёў па горадзе твайго калегу, ангельскага журналіста!..

Пастскрыптум – пра сны, чырвонае і белае.

У Грозным сьнілася Беларусь. Ня Горадня ці Няміга, не ўразьлівае падабенства "забароненых" сьцягоў, ня тое, што гэтыя сьцягі і там, і тут пачырванелі яшчэ да выбараў з "чырвонымі" вынікамі. Сон быў – проста лета, проста вёска. Проста адценьні пералічаў зеляніны ў садзе, які адцьвіў, адсьвяткаваўшы мой дзень народзінаў напрыканцы вясны. І мая рука сама сабою рэжа духмяны, толькі зь печы, хлеб на ручніку з чырвонымі кветкамі – тонка-тонка, каб ўсім хапіла...

А ў Беларусі... не, мне ня сьніліся "сны жахаў", пра што спыталі аднойчы мае сябры. Чачэнія выглядала па-іншаму. Гэта былі рукі ў крыві. Рукі былі моцныя, з кароткімі пальцамі і смуглявым загарам. Я адчувала, што яны мае, але чырвоная кроў не змывалася.

Я ведаю, што азначае кроў у сне: сустрэча з блізкімі сваякамі.

# Сьвет

### КАБ НЕ ЭМІГРАВАЛІ

Фэдэральны Канстытуцыйны суд Нямеччыны пакінуў у сіле закон пра эміграцыю ад 1993 г., які істотна абмяжоўвае колькасьць тых, хто мае права на прытулак у ФРГ. Разам з тым суд пастанавіў зрабіць новыя захады дзеля забесьпячэньня правоў сапраўдных уцекачоў. Таксама зьмякчаюцца ўмовы для тых, хто прыбывае ў ФРГ з гэтак званых "бясьпечных краінаў" і не падпадае аўтаматычна пад статус уцекача. Дзеля падачы заявы на статус уцекача ім даецца 7 дзён замест колішніх трох. Суд рэкамэндуе нямецкаму ўраду не высылаць уцекачоў у краіны, адкуль іх могуць рэ-дэпартаваць без суда й сьледзтва.

### МІННАЕ ПУСТАЗЕЛЬЛЕ

Бакі, што ваявалі ў былой Югаславіі, атрымалі ад Эўрапейскага Зьвязу абсталяваньне для разьміноўкі коштам звыш 100 млн. даляраў. А натаўскія сілы даюць ім для гэтага спэцыяльныя праграмы. Але ўсяго гэтага недастаткова, і таму разьмінаваньнем сваіх палёў, прысялібных дзялак ды проста кінутых у свой час панадворкаў занялося паспалітае непадрыхтаванае жыхарства. У выніку пачасьціліся ахвяры ад такога роду самадзейнасьці. Таму натаўскім вайскоўцам давялося сьпехам праводзіць лікбез насельніцтва ў галіне міннай тэхнікі бясьпекі.

Асаблівая ўвага надаецца ў гэтым басьнійскім школам, бо Босьнія найбольш "багатая" на такія трафэі. Сучасныя міны разьлічаныя збольшага не на забойства, а на калецтва — для дэмаралізацыі непрыяцеля. Але, нягледзячы на ўсе засьцярогі, людзі працягваюць самастойна ачышчаць сваю зямлю ад выбуховага сьмецьця. Бо пры сёньняшняй бюракратычнай валакіце працэс расчысткі сапэрамі толькі адной Босьніі можа зацягнуцца на 20 гадоў.

### ДАЛОЎ СУПЭРМАРКЕТЫ!

Так можна ахарактарызаваць чарговую кампанію французаў супраць усяго амэрыканскага. На гэты



раз змаганьне з сымбалямі амэрыканскага масавага спажывецтва распачаў прэзыдэнт Жак Шырак. Надта недаспадобы прыйшліся яму вялізныя будынкі, што нагадваюць хутчэй гіганцкія самалётныя ангары, чымся крамы. Змагацца зь імі Шырак распачаў, яшчэ калі быў мэрам Парыжу. Тады ён павыцясьняў усе супэрмаркеты на ўскраіны сталіцы. Цяпер жа, маючы нашмат большыя паўнамоцтвы, ён вырашыў выкараніць "амэрыканскую заразу" ў межах усяе краіны. Пару месяцаў таму Шырак нават паабяцаў "спаліць" супэрмаркеты. А нядаўна назваў іх праявамі "камэрцыйнага ўрбанізму", што спрыяюць беспрацоўю.

Прэзыдэнт абвесьціў пра абмежаваньне выдачы дазволаў на будаўніцтва новых супэрмаркетаў, а таксама вылучэньня для іх зямлі. Цяпер палова ўсяе прадукцыі ў Францыі рэалізуецца праз супэрмаркеты, а палова — праз традыцыйныя дробныя крамкі, дзе, дарэчы, кошты нашмат вышэйшыя, чымся ў буйных гандлёвых цэнтрах. Спэцыялісты лічаць, што Шырак распачаў такую шумную антысупэрмаркетавую кампанію з-за немагчымасьці выканаць свае перадвыбарчыя абяцаньні пра зьніжэньне беспрацоўя і знайшоў для гэтага "ахвярных казлоў" у выглядзе "не праўдзіва французскіх" формаў гандлю.

### НА КОРМ КРАКАДЫЛАМ

Тое, што ў рынкавай эканоміцы цана дакладна адпавядае якасьці, даўна стала аксыёмай. А пра тое, што ў дачыненьні да транспарту, асабліва авіяцыі, яшчэ падключаюцца фактары сэрвісу ды бясьпекі, і гаварыць ня трэба. Гэта пацьвердзілася нядаўна ў ЗША.

У амэрыканскім штаце Флярыда пацярпеў катастрофу самалёт мясцовай авіялініі. Звычайна квіткі на такія самалёты каштуюць няшмат, бо сэрвіс на іх невысокі і мадэлі машынаў састарэлыя. Разьбіўся стары "Дуглас", які ўвогуле мае рэпутацыю надзейнага самалёту. Але гэты "Дуглас" быў занадта стары, зроблены 27 гадоў таму. І, паводле зьвестак Фэдэральнага авіяцыйнага агенцтва, за апошнія 2 гады з-за сур'ёзных непаладак яму даводзілася 7 разоў перарываць палёты й вяртацца назад. Падчас катастрофы на борце, апроч 5 чалавек з экіпажу, былі 104 пасажыры. Жывы застаўся толькі адзін пасажыр, які папросту спазьніўся на рэйс і не паляцеў увогуле. Самалёт зваліўся ў балоцістай, поўнай кракадылаў ды зьмеяў мясцовасьці, што значна ўскладніла выратавальна-пошукавыя работы. Былі знойдзеныя ўсяго некалькі целаў загінулых.

### ЭРАСАМ ПА ГАЛАВЕ

Астраномы розных краінаў з трывогай назіраюць за траекторыяй палёту гіганцкага астэроіда пад назвай Эрас. Раз на 30 гадоў ён набліжаецца да Зямлі на даволі небясьпечную адлегласьць. Апошні раз гэта здарылася ў 1976 г. Астэроід важыць некалькі мільярдаў тонаў, мае 40 км. у даўжыню і 15 км. у шырыню і нясецца з хуткасьцю 90 тыс. км у гадзіну. Спэцыялісты NASA лічаць, што праз тры гады адбудзецца сутыкненьне Эраса зь Зямлёю. У гэтым выпадку з нашай плянэты зьнікне краіна памерам з Францыю. Апроч гэтага, удар справакуе пажары, што будуць лютаваць на працягу некалькіх месяцаў. Жахлівы выбух узьдыме ў паветра калясальнае воблака пылу вагою ў 30 тыс. тонаў, што надоўга заслоніць Сонца і выкліча моцнае пахаладаньне.

Дзеля больш падрабязнай інфармацыі амэрыканцы заслалі да астэроіда касьмічны зонд вагою ў 800 кг. Ён дасягне мэты ў студзені 1999 г. і пачне арбітальны аблёт на адлегласьці 35 км. Пасьля чаго зробіць пасадку на паверхню.

### ПІСУАР ЯК ТВОР МАСТАЦТВА

У Жэнэве адбылася мастацкая выстава "Вясна-96". Свае творы прадэманстравалі мастакі рознай ступені вядомасьці, якія выставілі жывапіс, кераміку ды скульптуру. Паводле стылю іх творчасьць болей нагадвала дадаізм. Гэты стыль, які зарадзіўся тут жа ў Швэйцарыі ў пачатку нашага стагодзьдзя, называюць яшчэ мастацкім хуліганствам. Што пацьвердзіла і месца разьмяшчэньня экспазыцыі. Яна была выстаўленая ў пяці найбольш наведвальных грамадзкіх прыбіральнях.

Арганізатар выставы Мірэк Марсалека сказаў, што, нягледзячы на невялікую прастору і адмысловае асьвятленьне, грамадзкія прыбіральні — гэта ідэальнае месца для сузіраньня твораў мастацтва. Да таго ж прыбіральні — гэта самае даступнае для гледачоў месца. Папулярнасьць такой выставы даказваецца й тым, што летась падчас аналягічнага мерапрыемства ў першыя ж дні зьніклі 75% экспанатаў.

### ЗЬНЕСЛА ВЕТРАМ

Згарэў ды амаль разьвеяўся па ветры дом, дзе калісьці жыла й пісала свой славуты раман Маргарэт Мітчэл. Як паведаміла агенцтва "Associated Press", пажар цалкам зьнішчыў нядаўна адрэстаўраваную трохпавярховую сядзібу пісьменьніцы. Рэстаўрацыю фінансавала нямецкая фірма "ДаймлерБэнц". Два паверхі плянавалася адвесьці пад музэй, а адзін — пад офіс самой кампаніі. Сядзіба, у якой слынная пісьменьніца жыла ў 1925-1932 г., ужо гарэла ў 1994 г. Якраз пасьля гэтага яе й пачалі рэстаўраваць. Пажарныя ўлады падазраюць, што ня ўсё там чыста, бо дом быў застрахаваны на вялізную суму грошай.

### НА НОВУЮ ВАЛЮТУ

У краінах Эўрапейскага Зьвязу зацьверджаны графік пераходу на

Працяг на старонцы 21

# Здарэньні

## Аблава

У мінулую нядзелю ў Менску міліцыянты правялі аблаву на тусоўку філяфаністаў, што звычайна зьбіраюцца ў сквэры насупраць кінатэатру "Беларусь" для абмену ды продажу кружэлак, кампакт-дыскаў і касэтаў. Сілу міліцыянты не выкарыстоўвалі, кружэлак і дыскаў у паветра не запускалі й ботамі не тапталі, таксама як не частавалі філяфаністаў гумовымі "дэмакратызатарамі". Ужываліся пакуль што захады псыхалягічнага застрашэньня. Міліцыянты пужалі аматараў музыкі артыкулам 148 Адміністратыўнага кодэксу, што карае за продаж з рук у непрызначаных для гэтага месцах. Праўда, належных вынікаў захады не прынесьлі. Але ж хоць да мардабою не дайшло! Ці то міліцыянты стаміліся ад зьбіваньня "палітычных", ці то проста рабілі гэта з уласнай ініцыятывы без каманды зьверху.

## Адпомсьціў

Жыхар вёскі Сарачы Любанскага раёну прыйшоў п'яны дахаты й захацеў пакатацца на бацькавай "інвалідцы". Натуральна, што бязногі бацька ня стаў рызыкаваць сваім апошнім сродкам перасоўваньня, а мо' й сына пашкадаваў. Так ці йнакш, ключоў ад машыны ён ня даў. На сваю бяду. Сын, убачыўшы, што ні ўгаворы, ні пагрозы не дапамагаюць, раззлаваўся й перайшоў да дзеяньняў. Аблаяўшы старога, сын выбег на двор ды скіраваўся да хлява, дзе стаяла машына. Там ён схапіў бутэльку з машынным алеем, абліў сядзеньне і падпаліў. Пакуль бацька агледзеўся ды выклікаў пажарнікаў, згарэў ягоны драндулет з хлявом разам. Каб яшчэ трохі, то загарэлася б разьмешчаная побач хата.

## Падпальшчыкі-падпольшчыкі

У савецкіх школах на працягу дзесяцігодзьдзяў людзей выхоўвалі на прыкладах піянэраў-герояў ды падпольшчыкаў, што займаліся дывэрсійнай дзейнасьцю супраць ворагаў. Пры гэтым падрабязна распавядаліся й рамантызаваліся мэтады й прыёмы такой барацьбы. І дарэмна. Бо ў Менску нядаўна знайшліся сапраўдныя пасьлядоўнікі тых піянэраў. Акурат на дзень "Перамогі" яны закінулі дзьве бутэлькі з запальнай сумесьсю ў адну з кватэраў дому на вуліцы газэты "Правда". Здарылася гэта а 3-ай гадзіне ночы. Паколькі гаспадар кватэры моцна спаў, то хата пасьпела як сьлед загарэцца. У выніку гаспадар атрымаў моцныя апёкі ды атручаньні чадам і патрапіў у шпіталь.

## Лепш мець памперс

Усе, хто бачыў пункты абмену валюты, браняваныя банкаўскія машыны ды "крутых" інкасатараў, пагодзяцца, што лабавы налёт на банкаўскія капіталы — справа безнадзейная. Але на тое й галава чалавеку дадзена, каб думаць. Да таго ж і ў фільмах прыкладаў хапае. Зусім як гэта рабілі Бывалы з Балбесам, у Менску абрабавалі пункт абмену валюты. Два рабаўнікі забеглі ў клязэт ды схаваліся за дзьвярыма. Калі касірка выйшла ў прыбіральню, злодзеі схапілі яе, адабралі ключы, зьвязалі ды запіхнулі ахвяру ў адну з кабінак. Пасьля пайшлі ў абменны пункт і забралі ўсе грошы.

## Шчодрасьць

У рэдакцыю менскай гарадзкой газэты "Вечерний Минск" патэлефанаваў адзін ветэран вайны ды распавёў неверагодную гісторыю. Калі ён вяртаўся дахаты, то па дарозе каля яго спыніўся шыкоўны "Мэрсэдэс", зь якога выйшаў "новы бульбаш" ды прапанаваў праехацца. Стары сказаў, што такое задавальненьне яму не па кішэні. Але кіроўца супакоіў таго, сказаўшы, што правязе бясплатна. Калі ж пад'ехалі да дому, дзе жыў стары, то багатыр уклаў яму ў працягнутую для поціску руку 100 даляраў. На запытаньне вэтэрана за што, адказаў: "За перамогу!"

## Крывавыя гульні

Тое, што моцны крыўдзіць слабога і найчасьцей беспакарана, зрабілася як бы правілам, асабліва сярод дзяцей, дзе старэйшы дае дыхту малодшаму. Але калі-нікалі знаходзіцца нехта, хто парушае гэтую завядзёнку. Як гэта задарылася ў вёсцы Кругліца Чашніцкага раёну. Тут вучань другой клясы завёўся біцца зь пяцігадовым хлопчыкам. Паваліў яго на зямлю й наваліўся зьверху. Малы адчайна супраціўляўся і спрабаваў вылезьці з-пад амаль удвая старэйшага крыўдзіцеля. Шасьцігадовая сяброўка малога, бачачы, што той ня можа даць рады, прыйшла на дапамогу. Яна ўклала яму ў руку сьцізорык, які пяцігодка ўсадзіў у шыю старэйшага нападніка. Пацэліў як раз у сонную артэрыю. Фантанам забіла кроў. Пакуль рабілі першую дапамогу, выклікалі "хуткую", што ў вёску прыязджае ня надта хутка, пацярпелы страціў зашмат крыві й памёр па дарозе ў шпіталь.

## Навязьлівы сэрвіс

У Менскім мікрараёне Серабранка два бамбізы вырашылі прапанаваць новы від паслугаў. Паіць насельніцтва гарэлкай без папярэдняй замовы з боку спажыўцоў. Першым кліентам аказаўся ўнівэрсытэцкі выкладчык, які спакойна йшоў дахаты. Да яго падыйшлі гэтыя бамбізы і прапанавалі выпіць. Выкладчык прыемна зьдзівіўся такому нечаканаму сэрвісу, але адмовіўся. Маўляў я і семак на вуліцы не купляю, ня тое што гарэлку. Але бамбізы адказалі: "Нас не хвалюе — аплочана". Наставілі на чалавека нож ды павялі на сваю кватэру. Там яго прымусілі выпіць гарэлкі ды расплаціцца. Свае паслугі яны ацанілі ажно ў 130 тыс. зайцоў ды 5 даляраў. Кліент з гэтым не пагадзіўся ды зьвярнуўся ў міліцыю. Неўзабаве рабаўнікоў затрымалі.

## Спаборніцтва

У мястэчку Самахвалавічы, што пад Менскам, адбылося спаборніцтва ў літарболе. Тры мужыкі зайшлі ў мясцовы бар, каб заліць агонь душы. Там сядзеў адзін хлопец пры грошах ды добрым гуморы, які прапанаваў ім апахмелку за свой кошт. Праўда, з умовай удзелу іх у конкурсе на самага моцнага пітака. Умовы былі піць з "гарла", без закускі і безь перадыху. Тыя згадзіліся. Першы выпіў тры з паловай бутэлькі гарэлкі, другі — дзьве, а трэці — паўтары. Фінішам была поўная падпарадкаванасьць зямному прыцягненьню. Пераможца так больш і не падняўся — памёр ад атручаньня мэгадозай гарэлкі. Двух астатніх удалося адратаваць у рэанімацыі.

## Міліцыянт-браканьер

Рыбнагляд Вялейскага вадасховішча затрымаў групу браканьераў колькасьцю 7 чалавек. Сярод іх былі лекар-псыхіятар ды капітан міліцыі. Як паведаміла газэта "Вечерний Минск", браканьеры спрабавалі ўцячы зь месца злачынства на двух "Жыгулях", але не пасьпелі. Будучы нападпітку, некаторыя браканьеры спрабавалі супраціўляцца, але, нюхнуўшы "чаромухі", супакоіліся. Астатнія працягвалі "качаць правы". Адзін з затрыманых назваўся мясцовым участковым міліцыянтам і запатрабаваў адвезьці ў родны Вялейскі ГАУС. Інспэктары зразумелі, што там нічога добрага іх не чакае і павезьлі парушальнікаў у Менск. Тут імі заняліся абласныя чыны. Затрыманы "ўчастковы" сапраўды аказаўся капітанам міліцыі. Праўда, ад удзелу ў браканьерстве ён адмаўляўся. Казаў, што проста йшоў па лесе, вышукваючы дровы на зіму. Але абласныя чыны яму не паверылі. Бо шпацыраваў ён па лесе а 7-ай гадзіне раніцы за 20 км ад свайго дому.

№ 9/96
20 — 26 траўня

Новае слова на рынку беларускае прэсы — штотыдзень 12 паласоў патрэбнае інфармацыі

# Інфарматар
НАША НІВА

ШТОТЫДНЁВЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ ДАДАТАК ДА ГАЗЭТЫ НАША НІВА

ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЕ BELARUSIAN PUBLIC RELATIONS ASSOCIATION



## КОШТЫ НА РЭКЛЯМУ Ў ГАЗЭЦЕ "НАША НІВА" І ІНФАРМАЦЫЙНЫМ ДАДАТКУ "ІНФАРМАТАР"

| | "НАША НІВА" | "ІНФАРМАТАР" |
|---|---|---|
| Базавая стаўка ч/б | \$0,5 см² | \$0,4 см² |
| Замова ў рэклямным бюро | \$0,5 см² | \$0,4 см² |
| Замова праз тэлефон | \$0,6 см² | \$0,5 см² |
| Першая паласа | ч/б – \$1 см² Колер (ня меней за 100 см²) – \$2,5 см² | ч/б – \$0,9 см² |
| Радковая рэкляма на паласе "Біржа працы" | | 5.000 руб. (зьмяшчаецца запар у двух нумарах) |
| Колер | ня меней за 50 см² – \$1 | ня меней за 20 см² – \$1,5 см² |
| TV–праграма | | ч/б – \$1 см² колер – \$1,5 см² (ня меней за 50 см²) |

Замовіць рэкляму можна праз тэлефон 36-76-75 з 10.00 да 20.00 штодня, ці на адрасе: вул. Пуліхава, 29, кв. 61, да 18.00. Пры гэтых коштах ня ўлічваецца выраб арыгінал-макету.

**Падпісны кошт 12.000 на месяц**
**36.000 на квартал**

*** Прадугледжаны скідкі на колькасьць выхадаў і плошчу рэклямных абвестак**

Падпіска на газэту
**"НАША НІВА"**
праз пошту і "САЮЗДРУК"
**індэкс 63125.**

**Падпіска праз недзяржаўную сетку дастаўкі** тэлефон 29-22-10 (Цыбульскі Леанід)

## Платныя прыватныя аб'явы

Тэрмінова куплю факс-апарат PANASONIC да \$150 у добрым стане ці памяняю на струйны прынтар Fujitsu Breeze 100+ (амаль новы). *Званіць на тэл. 27-83-75 з 13.00 да 17.00*



## МУЖЧЫНА Й ЖАНЧЫНА: ТРЫВАЛАСЬЦЬ СЯМЕЙНЫХ ПОВЯЗЯЎ

Ацэнка падрыхтаванасьці да сямейнага жыцьця й прагноз дабрабыту сужэнскіх адносінаў накіраваныя як на стварэньне трывалага шлюбу, так і на ўдасканаленьне ўзаемасувязяў маладых сужэнцаў у пэрыяд станаўленьня іх шлюбнага жыцьця. Тэст будзе карысным пры выпрацоўцы індывідуальных праграмаў такога ўдасканаленьня, а таксама для падрыхтоўкі юнакоў і дзяўчат да сямейнага жыцьця.

*Стар.* **22**

## РАДЫЁ

### *"Міжнароднае радыё Карэі"*




"Міжнароднае радыё Карэі" кампаніі Кэй-Бі-Эс – гэта адзіная кароткахвалевая радыёперадавальная служба Паўднёвай Карэі, якая вядзе свае перадачы за мяжу на працягу ўжо 43 гадоў.

У сваіх перадачах МРК імкнецца апэратыўна паведамляць пра падзеі ў краіне і ў сьвеце, на Карэйскай паўвыспе й вакол яе і даваць ім аб'ектыўную ацэнку. Сваю задачу радыёстанцыя бачыць у тым, каб знаёміць слухачоў ва ўсіх куточках сьвету з эканомікай, гісторыяй, культурай, мастацтвам і шматгадовымі традыцыямі "Краіны ранішняй сьвежасьці".

МРК вядзе свае перадачы на 10 мовах: карэйскай, расейскай, ангельскай, францускай, нямецкай, гішпанскай, арабскай, японскай, кітайскай і інданэзійскай.

МРК распрацавала цэлы шэраг захадаў з мэтай павысіць свой аўтарытэт і канкурэнцыйнасьць у міжнародным радыёэфіры.

Радыёстанцыя прыкладае ўсе намаганьні да таго, каб эфэктыўна ўвесьці ў жыцьцё гэтую праграму й заваяваць давер сярод слухачоў.

**Вось асноўны зьмест гэтай праграмы на 1996 год:**

*Арганізацыя бясплатнай паездкі ў Паўднёвую Карэю 10-і найбольш актыўным радыёслухачам.*

*Узнагарода 32 аўтараў найлепшых адказаў на нашыя віктарыны каляровымі тэлевізарамі.*

*Выпуск "Гісторыі Карэі" на дысках CD-ROM.*

*Апытаньне слухачоў.*

*Публікацыя нашага штоквартальнага "Інфармбюлетэню".*

*Актыўная падтрымка "Клюбаў аматараў МРК".*

*Адкрыцьцё "паштовых скрыняў" на адрэсах некаторых радыёслухачоў.*

*Выпуск 7 відаў вэрыфікацыйных картак.*

*Ладжаньне выставы МРК.*

*Старонка* **19**




## ГАСПАДАРКА

Айчынныя прадпрымальнікі не стамляюцца выдумляць усё новыя "параўнальна сумленныя спосабы адыманьня грошай". Летась зьнікла ці развалілася бальшыня фінасавых кампаніяў, што бралі грошы ў насельніцтва. На зіму гэтага года прыпаў росквіт арганізацыяў, якія прапануюць аўтамабілі за поўкошту з адтэрмінаваньнем іх атрыманьня. (Праўда, у адрозьненьне ад "пірамідальных" афэраў (прыкладам, МММ), якія разылічаныя праз падатак на ўсе пласты грамадзтва, у аўтамабільнай гульні брала ўдзел, з натуральных прычынаў, толькі сярэдняя кляса). Але падобна, што гэты від айчыннай прадпрымальніцкай дзейнасьці пачынае зьнікаць... Чаго чакаць далей?

*Пра новы бум у будаўніцтве чытайце на стар.* **8**

Што трэба ведаць, перш чым выбраць праект дому?

Ці трэба ўзгадняць індывідуальныя праекты садовых дамоў з адпаведнымі архітэктурнымі службамі?

Як рацыянальна выкарыстаць кожны квадратны мэтар плошчы?

Як стварыць ангельскі траўнік?

*Адказы на гэтыя і іншыя пытаньні па забудове садовай дзялкі чытайце на стар.* **8**

## КІНААНОНС

***Фонд Сораса і***

***Беларуская Фэдэрацыя Кінаклюб прэзэнтуюць.***

19 траўня, нядзеля.

18.30 (безь перакладу).

**Падзеньні.** 1980 г., колер, 185 хв.

Экспэрымэнтальны фільм, прыклад "незалежнага кіно".

92 біяграфіі ахвяраў незвычайных здарэньняў - апокрыфы інтэлектуальнага падпольля XX ст.

20 траўня, панядзелак.

18.30 (безь перакладу), 21.00.

**Кантракт рысавальніка.** 1982 г., колер, 108 хв.

У ролях: Энтані Хігінс, Джэнэт Сюзман, Эні Луіза Ламбэр. Х'ю Фрэзэр.

Уілшыр, 1694 г. Арыстакратычная сям'я запрашае маладога моднага мастака выканаць сэрыю малюнкаў для прыватнае калекцыі. Падпісаўшы кантракт, ён апынуўся ў цэнтры загадкавых падзеяў...

21 траўня, аўторак. 18.30 (безь перакладу), 21.00.

**Адлік тапельцаў.** 1988г., колер, 119 хв.

У ролях: Бэрнар Хіл, Джаан Плаўрайт, Джульет Стывэнсан, Джэйсан Эдвардс.

Тры жанчыны з аднае сям'і робяць матэматычна вылічаную спробу пазбавіцца абрыдлых мужоў. Цудоўна зьняты брытанскі чорны гумар.

22 траўня, серада. 21.00. ZOO. 1985г., колер, 115 хв.

У ролях: Андрэа Фэрэал, Браэн Дыкан, Эрык Дыкан, Фрэнсіс Барбэр.

Ахвяра аўтааварыі з адрэзанаю нагою, біёлягі-блізьняты, якія дасьледуюць паходжаньне жыцьця і вар'ят-мастак — галоўныя пэрсанажы вытанчанай сюррэалістычнай мэлядрамы.

23 траўня,чацьвер. 21.00.

**"Д" як "Дом".** 1976г., колер, 9 хв. Фільм-мантаж фотапартрэтаў клясычнай ангельскай сям'і, які агучаны галасамі Пітэра Грынуэя і ягонай маленькай дачкі.

Вокны. 1974г., колер, 4 хв. Тыповы для Грынуэя фільм-абсурд.

**Мілы тэлефон.** 1976г., колер, 17 хв.

Аповед пра складаныя ўзаемадачыненьні людзей і іхніх тэлефонных апаратаў.

Рэінкарнацыя арнітоляга. 1978г., колер, 41 хв.

Фільм пабудаваны на візуальных алюзіях і асацыяцыях.

**Водарасьці.** 1978г., колер, 9 хв.

Падручнік ангельскай школы "пэйзажнага" жывапісу.

Праграма праходзіць ў тэатральнай залі Палацу культуры прафсаюзаў ( на профе ). Тэл. для даведак 227-59-29.

***Прыезд рысавальніка.***

*Упершыню ў Беларусі аматары кінамастацтва атрымалі магчымасьць убачыць творы вялікага ангельскага постмадэрніста Пітэра Грынуэя на шырокім экране. Праграма прэзэнтуе як ужо вядомыя стужкі ( вядомыя з тэлепаказу НТВ на пачатку 1995 г. і з паказаў клюбу Сяргея Фяненкі), так і зусім новыя. Гэта фільм "Падзеньні" 1980 г. і сэрыя кароткамэтражкаў, якія раней таксама ніколі не паказваліся. Упершыню мы убачым "кінажывапіс" маэстра (мастака з адукацыі) так, як ён яго здымаў.*

Працяг са старонкі 4

новую агульнаэўрапейскую валюту. У адным "эўра" будзе 100 цэнтаў. Новыя грошы павінны ўвайсьці ў зварот у 2001 г. і будуць ужывацца поруч з нацыянальнымі валютамі. А з 1 ліпеня 2002 г. "эўра" зробіцца адзінай грашовай адзінкай для 15 краінаў. Цяпер вядуцца перамовы і кансультацыі аб зьнешнім выглядзе новых грошай. Было вырашана, што адзін бок купюры будзе мець агульны для ўсіх краінаў выгляд, а другі — нацыяльны. Разьмеркаваная і колеравая гама. Купюра ў 5 эўра будзе шэрая, у 10 — чырвоная, у 20 — сіняя, у 50 — аранжавая, у 100 —



зялёная, у 200 — брунатная, у 500 —пурпуровая. Памеры папяровых грошай будуць павялічвацца ў залежнасьці ад вартасьці. Ня вырашана пакуль, што рабіць з нацыянальнай сымболікай, якая не павінна займаць болей за 20% агульнай плошчы купюраў. Будуць ужываныя і 8 тыпаў манэтаў. У іх склад ня ўвойдзе нікель, які выклікае ў некаторых людзей алергію.

### РАСЕЙСКІХ БАБАЎ НЕ ЧАПАЙ!

У Маскве абсьвісталі вядомага савецкага, а цяпер ізраільскага сатырыка Генадзя Хазанава. У канцэртнай залі "Расея" адбывалася сьвяткаваньне 50-ай гадавіны расейскай ракетна-касьмічнай прамысловасьці. З гэтай нагоды на ўрачыстую вечарыну сабраліся ўсе шышкі расейскага ВПК на чале з віцэ-прэм'ерам Алегам Саскаўцом. Па старой завядзёнцы, пасьля ўрачыстай часткі выступілі "зоркі" эстрады. Запрасілі й незаменнага на такіх мерапрыемствах Генадзя Хазанава. Але, відаць, за час жыцьця ў Ізраілі той развучыўся арыентавацца ў густах сёньняшняй расейскай публікі. Толькі ён пачаў распавядаць нешта пра "рускую бабу", як заля зараўла, затупала ды засьвістала. Прысутным не спадабалася жыда-масонскае ачарненьне вялікага расейскага народу. Баба мусіла быць з хахлоў, бульбашоў ці чукчаў, але ніяк ня "рускай". Хазанаву давялося ратавацца ўцёкамі з сцэны. Як сказаў адзін касманаўт: "Наступны раз будзе ведаць, што гаварыць".

### А СКУЛЬЛЯ ВАМ!

Насуперак відавочнай шкодзе для эканомікі душаць падаткамі ня толькі ў Беларусі. З пачатку гэтага году, як вядома, немцы істотна павялічылі падатак для замежных дзеячоў культуры, спартоўцаў ды журналістаў, што працуюць у ФРГ. Гэта й сталася прычынай таго, што Майкл Джэксан адмовіўся ад заплянаваных нямецкіх канцэртаў. Натуральна, што фанаты поп-сьпевака выказалі пратэст свайму ўраду.

Каб замяць скандал, міністар фінансаў ФРГ Тэа Вайгель зьвярнуўся да Джэксана з нечуванай дагэтуль прапановай. Ён параіў сьпеваку ды ягоным мэнэджэрам як падмануць падатковую іспэкцыю. Трэба частку даходу ад канцэртаў задэкляраваць у выглядзе сумы, што пойдзе на неабкладальныя падаткамі вытворчыя выдаткі — абсталяваньне, рэквізыты, транспарт, электраэнэргію.

### САЛЖАНІЦЫН

У Казахстане газэта "Комсомольская Правда" — пад пагрозаю забароны. Газэта абвінавачваецца ў парушэньні 20 артыкулу Канстытуцыі краіны, дзе сказана пра недапушчальнасьць прапаганды ці агітацыі гвалтоўнага зьмяненьня канстытуцыйнага ладу ды парушэньня цэласнасьці рэспублікі. Як піша сама "Комсомольская Правда", прычынай сталася публікацыя газэтай стэнаграмы "Наўпроставай лініі" з Аляксандрам Салжаніцыным, дзе той назваў Казахстан частай Расеі ды паскардзіўся на ўціск "русскоязычных". Між тым, у Казахстане з 1227 газэтаў ды часопісаў толькі 275 выдаюцца на казахскай мове, а з 200 тэлекампаніяў толькі 5 перадаюць на нацыянальнай мове карэннага насельніцтва. Пракуратура лічыць, што газэта праз публікацыю выказваньняў Салжаніцына распальвае нацыяльную варожасьць. А шэраг нацыянальных пісьменьнікаў, што зьвярнуліся з скаргай у пракуратуру, назвалі Салжаніцына "нявыхаваным дзіцёнкам, які цягае аксакала за бараду". Пракуратура накіравала справу "Комсомольской Правды" ў Вярхоўны Суд Казахстану.

### НАРВАЎСЯ ВОСТРЫ НА ШЫЛАВАТАГА

У Нямеччыне амаль усе вулічныя таксафоны прымаюць аплату замест манэтаў плястыкавымі карткамі. Праўда, каштуе гэта даражэй за традыцыйны спосаб. Але на дапамогу сквапным бюргерам прыйшлі народныя ўмельцы краінаў СНГ, дзе падмануць дзяржаву здаўна лічылася правілам добрага тону. "Сьпяцы" распрацавалі цудадзейную плястыкавую картку. Яна здольная пасьля размовы самастойна аднаўляць зьнятую зь яе аплату. З такой карткай можна бясконца весьці бясплатныя тэлефонныя размовы. На чорным рынку яна каштуе 300 марак. Што ня так ужо й шмат у параўнаньні з нармальнымі — за 6 ці 50 марак. Нямецкім тэлефонным кампаніям неўзабаве, відаць, давядзецца растраціцца на пераабсталяваньне таксафонаў назад на манэтную аплату, бо сродкаў барацьбы з постсавецкім вынаходніцтвам пакуль ня знойдзена.

## Літва

### Фэстываль нязвыклага тэатру

"Нашае грамадзтва чамусьці вырашыла, што адзіная вартая чалавека мова зносінаў — мова вэрбальная, — сказаў на прэс-канфэрэнцыі адзін з арганізатараў Міжнароднага тэатральнага фэстывалю людзей з парушэньнямі інтэлекту "Вільтіс-96" Р.Катылюс. — Большасьць людзей або проста забылася або ня ведае, што поўнай і дасканалай камунікацыі людзі могуць дасягнуць між сабою і пры дапамозе жэстаў, піктаграмаў ці проста плястыкі.

Правядзеньнем гэтага фэстывалю літоўскі бок дасягае адразу некалькіх мэтаў. Мы, усе, хто занятыя ў сфэры дэфэкталёгіі, маем магчымасьць паказаць, якіх вынікаў можна дамагчыся ў працы зь людзьмі з псыхічным нядугам. Нашыя выхаванцы-акторы нарэшце змогуць адчуць радасьць сцэны й кантакт з староньнім гледачом. Прыезд на фэстываль калектываў з краінаў, дзе праца зь людзьмі з псыхічнымі парушэньнямі вядзецца даўно й вынікова, а гэта Данія, Англія, Японія, дазволіць узьняць прафэсійны ўзровень нашых выхавальнікаў. А наагул гэта проста для ўсіх нас сьвята. Тым больш, што заплюшчыць вочы на праблему людзей зь псыхічным парушэньнямі ніяк не выпадае.

Па ўсім сьвеце статыстыка прыкладна аднолькавая. Аднолькава страшная. Прыкладна адзін працэнт людзей нараджаецца з тымі ці іншымі генэтычнымі сындромамі. Гэты працэнт амаль не вагаецца ні ад колькасьці ўжываньня чыстага алькаголю на душу насельніцтва ў краіне, ні ад экалягічнай сітуацыі. Выкідаць такую колькасьць людзей з каляіны жыцьця ў любым выпадку амаральна дый проста неразумна. Дарэчы, большасьць зь іх у стане выконваць ня вельмі цяжкую фізычную працу, яны ў стане дапамагчы нам, людзям, якім пашчасьціла нарадзіцца здаровымі, зірнуць на сябе зь іншага боку. З боку шчырай наіўнай непрадузятасьці".

Фэстваль праходзіў з 10-га да 12-га траўня ў памяшканьні Акадэмічнага Драмтэатру. Гэта было сьвята... імправізацыі. Нязмушаныя ніякімі рамкамі ўдзельнікі спэктакляў спрабавалі свае яшчэ ня выкрышталізаваныя "Я" праз танцы, музыку, празь сьпевы. Яны абапіраліся толькі на рэакцыю залі й сваіх партнэраў на сцэне, намагаючыся заваяваць як мага болей аплядысмэнтаў. Панавала сапраўдная, натуральная шчырасьць, якой у маёй душы з кожным днём, на вялікі жаль, застаецца ўсё меней і меней месца.

### Табліца П.Сергіевіча

16 траўня адбылося ўрачыстае адкрыцьцё мэмарыяльнай таблiцы вялікаму беларускаму жывапісцу Пятру Сергіевічу. Шыльда з ініцыятывы Таварыства Беларускай Культуры ў Літве ўсталяваная на фасадзе дому на Антокальскай 30, дзе мастак на працягу многіх гадоў жыў і працаваў.

### Салідарнасьць

15 траўня перад пасольствам РБ у Літве, прайшоў пікет, арганізаваны Саюзам працоўных Літвы. У акцыі ўдзельнічала блізу трыццаці чалавек. Яе ўдзельнікі пратэставалі супраць дзеяньняў уладаў Рэспублікі Беларусь, якія парушаюць правы чалавека, робяць немагчымай працу незалежных прафэсійных саюзаў. Удзельнікі пікету выказалі сваю салідарнасьць з Беларускім незалежным прафсаюзам. Непасрэднай нагодай для пікету стала высылка беларускімі ўладамі дзеячоў польскага прафсаюзу "Салідарнасьць".

### Забарона на рэкляму

З 1 чэрвеня ўступае ў сілу забарона на рэкляму тытунёвых вырабаў. Ад гэтага часу вытворцы й гандляры цыгарэтамі змогуць, не парушаючы закон, інфармаваць пра свой тавар толькі ў месцы ягонага продажу. Аднак у гэтага закону сёньня вельмі шмат праціўнікаў. Найперш гэта ўладальнікі газэтаў і тэлебачэньня. Бо, як сьведчыць статыстыка, "тытунёвая" доля ў паступленьнях ад рэклямы складае блізу 30 працэнтаў. Перакрыцьцё гэтай крыніцы даходаў можа паставіць у вельмі цяжкае фінансавае становішча некаторыя літоўскія выданьні, якія й так перажываюць ня самыя лепшыя часы. Таму ўладальнікі пэрыёдыкаў і тэлеканалаў маюць намер зьвярнуцца ў Канстытуцыйны Суд і давесьці, што гэты закон супярэчыць Літоўскай Канстытуцыі і парушае правы грамадзянаў.

Аднак, з гэтага наўрад ці што атрымаецца, бо Літва, сёлета падпісала шэраг пагадненьняў з Эўрапейскім Зьвязам, у тым ліку і праграму "Тэлебачаньне бязь межаў", у якой катэгарычна забароненая рэкляма тытунёвых вырабаў праз сродкі масавай інфармацыі.

### "Life"

У Вільні пачаўся сапраўдны фэст! Цэлы тыдзень у горадзе дзень і ноч будзе бушаваць сьвята неўтаймоўнай дыянісійскай энергіі. Пачаўся традыцыйны віленскі тэатральны фэстэваль "Life", што зьбірае найлепшыя эўрапейскія тэатральныя калектывы. Сёлета адкрыцьцё сьвята праходзіла ў Нагорным парку на Крыжовай гары. Адкрываўся фэстываль прэм'ерай рок-опэры "Каханьне й сьмерць у Вэнэцыі" у пастаноўцы аднаго з самых знакамітых літоўскіх рэжысэраў Э.Някрошуса й парадам фэервэркаў, што імгненнымі зарніцамі асьвятлялі начное неба над ажылай пасьля доўгае зімы Вільняй.

Андранік Антанян

### Вяртаньне караля

Напачатку траўня дзясяткі тысячаў вугорцаў узялі ўдзел у сьвяткаваньні 1000-годзьдзя вясельля караля Стэфана. Каля сотні тысячаў чалавек суправаджалі рэлікварыі з мошчамі Сьв. Стэфана й ягонай жонкі — рукою караля й косьцю рукі каралевы. Рэлікварыі праносіліся па мясьцінах, зьвязаных з жыцьцём манархаў. Мошчы Сьв. Стэфана захоўваюцца ў Будапэшце, каралева пахаваная ў Нямеччыне, адкуль і былі прывезеныя яе парэштКі.



4 траўня 996 г. Стэфан пабраўся шлюбам зь нямецкаю прынцэсаю. Умоваю гэтага шлюбу была хрысьціянізацыя мадзьяраў. Кароль Стэфан быў абвешчаны пазьней сьвятым, ягоныя каралеўскія рэгаліі сталі сымболем вугорскай дзяржаўнасьці. У 996 г. для вугорцаў, якія прывандравалі ў Панонскую раўніну з Азіі, распачаўся эўрапейскі пэрыяд іхнай гісторыі.

Алег Дзярновіч

КАЛЯНДАР

# ПАМЯЦІ ПЕРШАГА

Наўрад ці першы homo sapiens мог прадбачыць, што гісторыяў будзе ўсяго чатыры: адна — пра ўмацаваны горад, абаронцы якога ведаюць, што ім наканавана загінуць, другая — пра вяртаньне, трэцяя — пра пошук, і апошняя — пра самагубства Бога.

Магчыма, у тую вырашальную ноч ён прысьніў, як пазбаўляе сябе жыцьця. Ён прачнуўся ад уласнага крыку — першы на Зямлі — і выйшаў да сваіх супляменьнікаў, каб абвясьціць ім пра існаваньне Бога. Гэта здарылася ці то ля ракі Хуанхэ, ці то на беразе возера Ньяса, ці то ў Альпах 45.000 гадоў таму — на мяжы сярэдняга й верхняга палеаліта. Археолягі сьцьвярджаюць, што зьяўленьню homo sapiens'а папярэднічала існаваньне рознага кшталту паўмалпаў — аўстраляпітэкаў, сынантрапаў, прэзынджантрапаў ды іншых. Ня менш як два з паловай мільёны гадоў перад HS яны займаліся вырабам прымітыўных прыладаў працы, за што атрымалі назоў homo habilis — чалавек умелы. Такім чынам, паміж словамі "чалавек" і "розум" мы сапраўды ня ставім знак "=".



Сярод нас жывуць людзі, продак якіх быў ПЕРШЫМ разумным чалавекам. Магчыма, яны найбольш моцна адчуваюць цяжар досьведу сарака пяці тысячаў гадоў Шляху. Мы штодня пераглядаем яго як "кнігу пяску", але ніколі ня здолеем узгадаць УСЕ крокі, зь якіх ён складаецца. Таму — ПЕРШАМУ — прысьнілася самагубства, бо ён стаўся чалавекам разумным — ён усьвядоміў, што ня ведае, хто ён і куды рушыць, але ён не загінуў — ён стварыў Бога. І распачаўся цыкль чатырох гісторыяў. Сёньняшняя Беларусь вярнулася да першай зь іх. Калі прыйдзе апошняя — невядома. Таму варта адзначыць гэты юбілей, і, магчыма, цыкль зьменіцца — "мы дачакаемся прыходу багоў".

Homo sapiens прызвычаіўся адзначаць свае юбілеі стварэньнем манумэнтаў. Як выглядаюць помнікі homo habilis'у мы добра ведаем... Магчыма, п'яны жабрак, што сьпіць на прыступках падземнага пераходу, ведае, як мусіць выглядаць помнік homo sapiens'у. Магчыма, гэта ён і ёсьць.

Севярын Квяткоўскі

*Генадзь Сагановіч*

# CRIMEN PERDUELLIONIS,
## або справа смаленскага ваяводы

*Хачу паўтарыць за Жулем Мішле: "Зьдзьмуваючы пыл стагодзьдзяў, я бачыў, як уставалі памерлыя". Гісторыі гэтай, так да канца й не разблытанай, ужо больш за тры стагодзьдзі, а яна ўсё яшчэ займае, хвалюе, быццам усё адбывалася на вачах.*



28 верасьня 1654 года, пасьля чатырнаццаці тыдняў упартай абароны, Смаленск здаўся маскоўскаму цару Аляксею Міхайлавічу. Праз колькі дзён смаленскі ваявода Піліп Абуховіч з часткаю афіцэраў і шляхцічаў пакінуў заняты царскім войскам горад і выехаў на Беларусь, да Дуброўны, якая яшчэ баранілася. Ня думаю, каб нехта ўжо тады здагадваўся, што Смаленск страчаны назаўсёды, але капітуляцыя галоўнай усходняй цьвердзі беларуска-літоўскай дзяржавы сталася зусім нечаканай для грамадзкасьці. Шляхта была проста шакаваная.

Не пасьпеў Абуховіч вярнуцца ў свой маёнтак Ліпу, як край запаланілі чуткі пра тое, што ён здаў Смаленск маскоўскаму цару з карысьлівых інтарэсаў, па змове, што ня ўмеў і не хацеў ваяваць. Былы сябрук капітулянта Іван Цыпрыян Каманяка ў едкім лісьце высьмяяў ваяводу, прыпомніўшы таму й веданьне лаціны, і славу прамоўцы. Выходзіла, што Абуховіч меў "людзей зацных і добрых, пры жыўнасьці, гармаце, ды не хацеў бараніцца", ды што за час усіх штурмаў Смаленска ў яго "толькі аднаго ткача забіла, ды й то ня вельмі вядомага". А пасквіль жа хадзіў па ўсім краі, гэта чыталі. Казалі нават, што яму дадуць 1200 пяхоты і пашлюць вяртаць Смаленск...

Псыхічна Абуховіч быў ужо зламаны, і нават дыярыюш, які вёў з 1630 году, пасьля капітуляцыі перастаў пісаць.

Калі 19 траўня 1655 году ў Варшаве адкрыўся надзвычайны сойм, які мусіў пільна разглядаць адно пытаньні абароны (трэба ж было ратавацца, бо маскоўскае войска распачынала новую наступальную кампанію), у цэнтры ўвагі апынулася справа смаленскага ваяводы. Паслы ад Беларусі й Літвы, абвінаваціўшы Абуховіча ў crimen perduellionis (здрадзе краіне), патрабавалі да высьвятленьня ўсіх абставінаў капітуляцыі выключыць яго з сэнату, а паслоў Смаленскага ваяводзтва – з пасольскай ізбы. Апошняга хутка дамагліся, але за Абуховіча заступіўся кароль ды сэнатары. Трэба спакойна ва ўсім разабрацца, даводзілі яны. Тады беларуска-літоўская шляхта заявіла, што яна ня будзе цалаваць рукі каралю (а значыць, і не пачнуцца нарады) да таго часу, пакуль Абуховіч ня выйдзе з сэнату. Патрабавалася нават большае – тэрмінова судзіць смаленскага здрайцу і яго супольнікаў на гэтым самым сойме! Чаму так адзінадушна шляхта вінавaціла менавіта Абуховіча, хоць на сойм былі пакліканыя і палкоўнік Вільгельм Корф, і Мікалай Тызэнгаўз, якія таксама кіравалі абаронай Смаленску?

Ня хутка ўдалося прыйсьці да кампрамісу. Паслы прынялі абяцаньне караля судзіць вінаватых на наступным сойме, а кароль з гэтага ж дня пазбаўляў апошніх голасу ў сэнаце і пасольскай палаце. Прысутны на сойме нямецкі дыплямат Фрагштайн адзначыў, што гэтыя недарэчныя разборкі забралі цэлыя два дні, так патрэбныя для пільнай арганізацыі абароны.

Ян Казімір і Сапегі падтрымвалі абвінавачанага, давалі яму час, каб сабраў доказы ў сваё апраўданьне. Дазволілі паказаць сябе на справе і даверылі полк з дывізіі Паўла Сапегі. На чале палка Абуховіч ваяваў са шведамі, а потым прыйшоў пад Берасьце, але, прыгнечаны духова, захварэў тут на камень (calculus) і праз два тыдні памёр. З таўром здрадніка сваякі пахавалі нябожчыка ў Навагрудку.

Постаць Абуховіча была вядомая ў цэлай Рэчы Паспалітай. Гэты навагрудзкі шляхціч скончыў Замойскую акадэмію, ведаў клясычныя мовы й славіўся як выдатны прамоўца. Доўгі час ён быў пры двары Льва Сапегі, служыў пад яго чалом ротмістрам, а потым стаў добрым прыяцелем старому гетману. Шматкроць прадстаўляў Навагрудзкае ваяводства на вальных соймах, у пасольскай палаце граў заўсёды адну зь першых роляў, бараніў соймы ад зрыву. Яшчэ ў 1648 годзе, падчас элекцыі Яна Казіміра, Радзівілы ахрысьцілі Абуховіча "мужам вялікага розуму і рэдкага красамоўя". Канцлер Альбрэхт Радзівіл напісаў, што гэта "добры грамадзянін, вучоны і вельмі заслужаны". Абуховіча паважалі. Яго любіў кароль. Яму ўсьміхалася фартуна. Да ракавога дня 25 верасьня 1653 году – дня прызначэньня ваяводам у Смаленск.

Чаму кароль перад самай вайной аддаў Смаленск менавіта Абуховічу? Усе ж, і Ян Казімір пагатоў, ведалі, што ён "больш прамоўца, чым жаўнер".

Каб змыць ганьбу з роду, сын памерлага ваяводы палкоўнік Міхал Абуховіч неўзабаве дэкляраваў, што яны гатовыя давесьці "невінаватасьць свайго родзіча". Справай нябожчыка заняўся надзвычайны сойм, сабраны ў Варшаве ажно ў 1658 годзе. За тыдзень да пачатку паседжаньняў спэцыяльная камісія з трох сэнатараў і дваццаці чатырох паслоў стала вывучаць сьведчаньні камандзіраў, ротмістраў, жаўнераў, дэпутатаў, якія вялі перамовы зь непрыяцелем, а таксама простых жыхароў Смаленску, што пакінулі там, сыходзячы, свае маёнткі. Аналізаваліся дакумэнты ўсіх зносінаў з царом, апраўдальны тэкст аб прычынах здачы Смаленску, напісаны ў 1655 годзе ўласнаручна Абуховічам. У выніку зьявіўся "Соймавы дэкрэт па абвінавачаньні смаленскага ваяводы Піліпа Абуховіча ў здачы Смаленску маскоўскаму войску", у якім і адкрыліся дэталі смаленскай драмы...

Усё пачалося літаральна з моманту прызначэньня. Намінаваны ваяводам у верасьні, Абуховіч толькі ў канцы сьнежня (праз тры месяцы!) здолеў уехаць у Смаленск. Пётра Вяжэвіч, які быў тады смаленскім падваяводам, то брамы не адчыняў, то паграјаў... У апраўдальным тэксьце Абуховіча падкрэсьлена, што ўсё гэта сыходзіла ад вялікага гетмана Януша Радзівіла, які бачыў на чале смаленскай цьвердзі палкоўніка Корфа.

Калі Абуховіч такі ўехаў у горад, Вяжэвіч аддаў ключы ад брамаў і замкавыя харугвы не яму, а Корфу. Прызначаны ваявода заставаўся хутчэй госьцем, чымся гаспадаром фартэцыі. Што яшчэ горш – абструкцыя смаленскай шляхты, якая на сваім сойміку выказалася супраць намінацыі Абуховіча. Праўда, манарх сувора загадаў слухацца. Абуховіч вагаўся, прасіў караля і вялікага князя адклікаць яго, але той супакойваў, абяцаў хуткую дапамогу, казаў трымацца...

Тымчасам смаленскі замак ператварыўся ў кацёл, гатовы выбухнуць. Пяхота і шляхта збунтавалася супраць ваяводы. Яго "ня толькі ... шмат разоў ледзь жыцьця не пазбавілі, але й сойміки зрывалі". Ардынансы Януша Радзівіла перадаваліся не Абуховічу, а Корфу. У руках сьледчай камісіі фігураваў унівэрсал вялікага гетмана да смаленскай залогі , каб тая падпарадкоўвалася "не каму іншаму, але адзіна пану Корфу". Паказвалі й ліст, у якім яшчэ да прыходу маскоўскіх палкоў Абуховіч прасіў Радзівіла прыслаць дапамогу, але гетман адмовіў, спаслаўшыся на малалікасьць свайго войска. Дык ці магло быць інакш, калі той сапраўды ня меў і дзесяці тысяч, а мусіў бараніць не адзін горад – цэлую дзяржаву!

На Януша Радзівіла на судзе наагул ускладвалася найбольш віны. Але наколькі адпавядала гэта праўдзе? Вялікага гетмана не цярпелі кароль і ўвесь двор, Абуховіч жа, наадварот, уваходзіў у кола любімцаў Яна Казіміра. "Здраднікам" важна было паказаць менавіта першага, аўтара Кейданскай вуніі. Сам па сабе судовы разбор даваў добрую магчымасьць публічна ачарніць Януша, даўно таксама ўжо нябожчыка. А дакумэнты фальшаваліся тады лёгка.

Соймавы дэкрэт зафіксаваў цэлы шэраг фактаў, куды больш важных для разуменьня прычыны здачы Смаленска, чымся дэталі стасункаў Абуховіча з Радзівілам і з залогай. Ваявода атрымаў горад запозна, "калі ўжо непрыяцель на карку насядаў", а самым вырашальным сталася тое, што фартэцыя цэлых дваццаць гадоў была занядбаная і за два месяцы сытуацыю проста нельга было паправіць. Калі б Смаленск быў так умацаваны, якім зрабіў яго пасьля капітуляцыі цар, горад "ніколі не патрапіў бы ў маскоўскія рукі", – сьмела сьцьвярджаў Абуховіч.

Сапраўды, муры мелі вялізныя расколіны, у многіх месцах дзюркі проста замазваліся глінай, валоў амаль не засталося. Не было ні добрых запасаў правіянту, ні зброі, ні пораху. У парахавых млынах малолі зерне на муку... На лета ў смаленскіх мурох пакінулі нейкіх 30 коняў, астатніх выгналі з прычыны недахопу фуражу...

Смаляне паводзілі сябе на дзіва бясьпечна. Ніхто не хацеў верыць, што вайна ўжо пачалася. І калі за тры дні да зьяўленьня царскага войска Абуховіч загадаў спаліць пасады за мурамі, люд узбунтаваўся, абвінаваціў ваяводу, што той дарэмна чыніць шкоду.

Ня лепш было з абаронцамі. Касьцяк залогі складала нямецкая пяхота, але ёй ня выплацілі заслужаных грошай. А пераважалі ў замку сяляне, мяшчане і шляхта. Ваявода запісаў, што людзей вельмі мала, і сярод іх часта "студэнты, рамесьнікі, аратаі, якія й страляць ня ўмелі"...

Дык ці можна было наагул у такіх умовах бараніцца ад трыццацітысячнага, добра ўзброенага маскоўскага войска? Не заставалася нічога іншага. І Абуховіч бараніўся – "пакуль сіл і пораху ставала". Вось тут і выявілася, што ён не жаўнер. Імкнуўся ашчаджаць боезапасы і прадукты, а казалі, што ўтойваў. Трэба было спакойна камандаваць, уздымаць баявы дух абаронцаў, а ваявода за ўсё хапаўся сам. Ён не выглядаў на камандзіра. "Пан ваявода ледзь не крывавым потам ня раз абліваўся, удзень і ўночы працуючы, сам людзей па вуліцах і дамох зьбіраў, дрэва, жалеза й іншыя патрэбныя для паправы абароны рэчы здабываючы..." Сьведкі сьцьвярджалі, што Абуховіч, "не давяраючы варце, сам муры па начах абыходзіў, сьпячых і п'яных будзіў і нагадваў..., і гадзіны ніколі не пасядзеў у штодзённай чуйнасьці і цьвярозасьці..."

Хіба мог ён, чалавек зусім не вайсковага духу, натхняць абаронцаў, калі сам знаходзіўся ў глыбокай паняверцы, а ў дадатак яшчэ й паранены?

Абуховіч баяўся вялікай крыві. Калі стала ясна, што прыйшоў час выбіраць адно з двух – або "ад меча непрыяцельскага загінуць", або "без праліваньня крыві й страты людзей" здаць горад, ён спыніўся на другім. Можа нават не ўсьведамляючы, бо гэтак прамаўляла ягонае нутро. Распачаў перамовы. Абарона зусім развалілася. І яшчэ да завяршэньня перамоваў пяхота й шляхта фактычна здалі фартэцыю. Так што й тут у ваяводы не заставалася выбару...

Камісія выснавала: "ніякай віны ў здачы Смаленску на вяльможным калісь Піліпе Казіміры Абуховічы... не даказана". Смаленск страчаны не праз змову Абуховіча з непрыяцелем ці праз нячуласьць да абавязкаў, "але ад пэўных дэфэктаў і праз здраду тамтэйшых некаторых абывацеляў".

Толькі здрада гэтых "некаторых абывацеляў", сярод якіх першая роля належыла пану Альбрэхту Галімонту, чамусьці не выклікала ўвагі камісіі й суайчыньнікаў, што так прагна шукалі вінаватага.

# Створаны грамадзкі камітэт

"Нават ва ўмовах бессаромнага гвалту над дэмакратыяй... больш за палову выбаршчыкаў выказаліся за захаваньне ў якасьці дзяржаўных сымбаляў гістарычнай Пагоні і бел-чырвона-белага сьцягу. Вынікі гэтага "рэфэрэндуму" не зацьверджаныя Вярхоўным Саветам і ня маюць юрыдычнай сілы. Таму герб Пагоня і бел-чырвона-белы сьцяг адпаведна закону ад 19 верасьня 1991 году зьяўляюцца афіцыйнымі дзяржаўнымі сымбалямі Беларусі. Гвалтоўнае насаджэньне прэзыдэнцкай сымболікі ў краіне незаконнае", – канстатуе ў сваёй першай Заяве Грамадзкі камітэт абароны беларускай нацыянальнай гістарычнай сымболікі, які створаны ў Менску.

"Гэтая фактычна нязьмененая БССРаўская сымболіка... дае сьвету ілжывае ўяўленьне пра народ і краіну, – сказана далей у Заяве. – Створаная насуперак законам геральдыкі і эстэтыкі, яна пазбаўленая ўсялякага сэнсу. Нездарма ж прэзыдэнтам на сьмех усяму сьвету абвешчаны конкурс на патлумачэньне ягоных сымбаляў. Марная справа, марная трата сродкаў. Нацыянальную сымболіку нельга стварыць штучна, немагчыма і адмяніць яе загадам...

Наша Пагоня – адзін з самых старажытных дзяржаўных гербаў у Эўропе і сьвеце. Летапіс зазначыў, што 700 гадоў таму, у канцы XIII ст., ён набывае статус дзяржаўнага. "Рыцар збройны на кані" сымбалізуе абаронцу Бацькаўшчыны... На шчыце вершніка разьмешчаны залаты шасьціканцовы крыж – сонечны знак Ярылы, сымбаль веры нябеснай заступніцы Беларусі – Эўфрасіні Полацкай. Белы і чырвоны – пракаветна-сакральныя, улюбёныя колеры беларусаў. Чырвоная паласа на бялюткім тле палотнішча сьцягу – гэта суладзьдзе чысьціні і мужнасьці, знак ахвярных Хрыстовых пакутаў, сьлед пралітай за Волю рыцарскай крыві...

Пад гэтымі сьвятымі сымбалямі нашыя продкі здабылі найбуйнейшыя свае перамогі: на Сініх Водах і пад Грунвальдам, пад Воршай і на рацэ Вуле, пад Кірхгольмам і Хоцінам. Гэтыя сымбалі лунялі над паўстанцамі Якуба Ясінскага,.. Кастуся Каліноўскага, пад імі гінулі жаўнеры гераічнага Слуцкага Збройнага Чыну".

У Грамадзкі камітэт аб'ядналіся найбуйнейшыя беларускія спэцыялісты ў гісторыі, геральдыцы, археалёгіі, мастацтвазнаўстве, а таксама вядомыя пісьменьнікі,



мастакі, навукоўцы, – усяго больш за 60 чалавек.

Мэты Камітэту: цывілізаванымі, законнымі сродкамі дасягнуць аднаўленьня ў якасьці дзяржаўных сымбаляў гербу Пагоня і бел-чырвона-белага сьцягу; забясьпечыць сталую прысутнасьць нацыянальных гістарычных сымбаляў у жыцьці краіны і народу, прапагандаваць іх.

Камітэт абвясьціў 1996 год у Беларусі годам гербу Пагоня і прапанаваў усім патрыятычным сілам краіны правесьці сёлета сьвяткаваньне 700-х угодкаў яго дзяржаўнасьці.

*Паўліна Качаткова*

# Сярод усяго

**АПАВЯДАНЬНЕ**

Чаго толькі няма ў Сьвіслачы. Паглядзі! З моста ўсё ўбачыш. Тут ёсьць: рэшткі электрагітары са струнамі, шыны, зусім цэлая з выгляду рыдлёўка (яе можна паспрабаваць выцягнуць), пляшкі самыя розныя. Зялёныя цяжкія сьметніцы патрапілі ў ваду з прысадаў парку, паламаная лаўка — таксама адтуль. Што яшчэ? Шмат таямнічага й неспазнанага! Вось нешта белае й брыдкае зачапілася на дне і цяпер калыхаецца, выгінаецца, трапечацца ў вадзе. Нават ня хочацца казаць, на што яно падобнае. Вось куртка, яна таксама зачапілася і ня можа плысьці далей. Думаю, гаспадар ня будзе шукаць яе на дне ракі. Напэўна, яна яму ўжо непатрэбная. Пільна ўзіраюся ў па-зімоваму празрыстую ваду: можа прагляне сярод усяго бледны твар чалавека, які страціў у Сьвіслачы ня толькі куртку, але й жыцьцё.

І ўсё гэта можна назіраць кожны дзень па дарозе на працу. Ідзеш праз мост — і глядзі сабе, колькі заўгодна, любуйся, калі толькі не халодна й ня сорамна, што прымуць за шызу.

Ёсьць яшчэ пад мостам нешта накшталт снараду ці бомбы. Дакладней, гэтая незразумелая рэч там была да нядаўняга часу. Кажу "ёсьць", бо ўвесь час забываюся, што яе там няма. Так мы звыкліся зь ёю. Тры гады мы спрачаліся з-за яе, бо кожны з нас хаця б раз на дзень пераходзіў мост. Сакратарка Люда казала:

— Гэта не снарад, а вялікая рыба. У яе хвост.

— Такія рыбы ў Сьвіслачы ня водзяцца, — пераконвала я яе, — гэта бомба, альбо снарад, паглядзі нармальна.

— Рыба, — настойвала Люда, — яна прыплыла аднекуль, але ня здолела жыць у Сьвіслачы, таму й здохла.

— А чаму яна так добра захавалася?

— Таму што вада халодная.

— Яе б даўно зьелі іншыя рыбы.

— А калі яны ня хочуць яе есьці?

— Ты лепей згадай кінахроніку. Помніш, як там паказваюць? З самалётаў падаюць вось такія самыя хвастатыя бомбы.

— Дык гэта бомба ці снарад?

— Нешта такое...

Мы глядзім з моста ў ваду, а людзі, якія праходзяць міма, глядзяць на нас. Робіцца няёмка. Яны думаюць, што мы дурныя.

— Усё адно гэта бомба, — кажу я. Люда маўчыць, і мы йдзем, куды ішлі.

Тое, што гэта ўсё ж ня рыба, высьветлілася. Вясной і летам вада была мутная, а восеньню зноў — празрыстая. Вось тады мы і ўбачылі, што тая штука пад вадой як ляжала, так і ляжыць.

Ляжала яна там, ляжала да сакавіка 1996 году, а пасьля зьнікла. Куды? А хто ведае? Аднойчы, гляджу, быццам усё на месцы, але няма самага галоўнага — бомбы. Зьнікла. Няма пра што казаць.

Перад сьвятам перамогі над фашыстамі пайшлі з дзецьмі — Адасём і Янаю на Сьвіслач. Хацелі паглядзець жабаў. Адразу ўразіла мноства вялікіх і шырокіх маціцовых ракавін. А жабаў не было.

— Дзе жабы? — пытаўся Адась.

— Павінны быць.

Мы йшлі ўздоўж бруднага берагу. Двухгаловая Яна з радасьцю шпурляла ў ваду каменьчыкі. А жабаў не было. Мне пашчасьціла ў іншым — знайшла манэту.

— Глядзі, Адась, манэта!

— Дзе?

— Вось, — я паказала сямігадоваму Адасю знаходку, — і тут яшчэ арол.

— Арол!?

— Расейскі.

— А... — расчараваўся Адась.

Цікава, а якога арла ён хацеў пабачыць?

— Гэта пяць расейскіх рублёў, — патлумачыла я.

— А дзе жабы?

— Будзем шукаць... Хадзем, Яна, давай руку. А можа жабы яшчэ не нарадзіліся...

І ў вадзе, і на беразе хапала рознага... Не было толькі таго, што мы шукалі.

— Во, Адась, глядзі: яшчэ адна манэта, — я падабрала зь пяску зусім чорны круглячок.

— Зноў расейская?

— Савецкая. Пятнаццать капеек, за іх можна было тэлефанаваць у іншы горад. А вось і жаба.

— Дзе?

— Вось, на кавалку пенапласту.

— Дзе?

— Зараз пабачыце...

Жаба была зусім невялічкая і занадта спакойная, на нас зусім не рэагавала. Звычайна яны толькі пры набліжэньні адразу плюхаюцца ў ваду.

Азіраюся, шукаю, чым бы паганяць жабу, каб яна скочыла. Знаходжу дубец, варушу ім жабку — сядзіць, як прыклееная. І колер у яе нейкі мэталёвы. Можа нежывая? Выцягваю з вады пенапласт разам з жабай — як сядзела, так і сядзіць.

— Яна памерла, — канстатуе Адась.

— Не, яна дыхае, паглядзі на яе горла.

— Жаба, жаба! — радуецца Яна.

— Зараз пабачым, ці можа яна плаваць, — кажу я і сьпіхваю жабку з пенапласту. Плыве!

З трафэямі — маціцовымі ракавінамі і дзвюма манэтамі — пакідаем бераг Сьвіслачы.

Дарогай згадваю манэту 1570 году з Пагоняй, якая дзесяць гадоў таму на даўгім срэбным ланцужку вісела ў мяне на шыі. Манэта страчаная — шкада, мне падаравала яе маці.

На раскопках Дамініканскага касьцёла тым, хто знаходзіў манэту з Пагоняй даплочвалі пяцьдзясят капеек за штуку — такая была прэмія. Некаторыя знаходзілі па тры за зьмену. А я за пяць месяцаў — ніводнай. А як хацелася! Не для таго, каб атрымаць пяцьдзясят капеек, а проста, каб знайсьці! Аднойчы ўбачыла нешта круглае ў пяску, думала ўсё — знайшла. Узяла, а там манэта, але на ёй — ўсё той самы двухгаловы арол. І што зь ім рабіць?

Манэты, знойдзеная праз стагодзьдзі, нагадваюць пра тое, што йснавала, пра дзяржавы, якія зьнікалі, каб не адрадзіцца.

І думаю я пра тое, што ніхто ня знойдзе дробнай беларускай манэты на беразе ракі.

### ПАПРАЎКА

***У папярэднім нумары "НН" пры публікацыі апавяданьня "Калекцыянэр" з-за тэхнічных прычынаў страчана імя аўтаркі твора Марыі Роўды. Прыносім сп. Марыі свае прабачэньні.***

*Рэдакцыя*

*Адам Глёбус*

# Каралеўства Буды

**ТАЙЛЯНДЗКІЯ ПАДАРОЖНЫЯ СЬПІСЫ**

*Прысьвячаю Веры Маркавай, чыя творчасьць служыць узорам для пераймальня.*

## Буда...

Вясёлы Буда. Буда ляжыць. Вялікі Буда. Залаты Буда. Любы Буда. Буда сядзіць на дванаццаці падушках. Ніфрытавы Буда. Буда-настаўнік. Буда-лекар. Драўляны Буда.

## Белае...

Хрумстка-белая павінна быць хустка сялянкі.

Халат лекара падчас размовы з пацыентамі мусіць быць бясспрэчна-белы. Вопратка хірурга й памагатых можа мець і зеленкавата-шарую, балотную афарбоўку, але гэта, каб не было відаць крыві.

Соль смачнейшая, калі мае крыштальна-белы адліў.



Цукар мусіць быць белы, толькі крышку цяплейшы за соль.

Папера, на якую перапісваюць вершы, прысьвечаныя каханай жанчыне, ня можа быць іншай як белай.

Антычную капітэль лепш за ўсё абнаўляць бялюткаю фарбаю. Пра гэта ведаюць стваральнікі гатэляў у нэакаляніяльным стылі на беразе Сіямскай затокі ў Тайляндзе.

Сьвежа-белы грабеньчык морскай хвалі нясе ў сабе непараўнальны рамантызм.

Лебедзі на вадзе – само ўвасабленьне белакрылага харaства, нават калі плаваюць у невялічкім стаўку на кракадзілавай фэрме.

Каб каўнерык школьніцы быў заўсёды цнатліва-белы, павінны турбавацца яе бабулі.

Усьмешка маладой каханкі так і завецца белазубай.

Калі хмарачосы маюць белыя сьцены, яны зьзяюць перад навальніцаю й кідаюць выклік Перуну. Але наймагутнейшае зь белых адценьняў, натуральна, у маланкі.

Калі запытаюцца, што я жадаю мець звычайнага белага колеру, адкажу: дом, кашулю і піялу з тайляндзкім рысам.

Найбялейшы колер асьляпляе, абпальвае і пераплаўляецца ў боль.

## Чыстае...

Празрыстая й прахалодная вада ўвасабляе чысьціню.

Камень аквамарын і слова "аквамарын" вельмі чыстыя.

Найпрыгажэйшае...

Краявід узгаданы зь дзяцінства.

Поўня ў зімовую ноч.

Адлюстраваньне сабора ў нерухомай вадзе.

## Вясёлае...

У Тайляндзе весяліць і цешыць вока бязьмежны бангкокскі кілім, сатканы зь мірыядаў электрычных агеньчыкаў ў цёплай чарнаце навагодняй ночы. І высока-высока, па-над усім срэбны скрылік месяца таксама ўсьцешвае самотных і пахмурных.

Адлюстраваньні рэстаранных танцорак у падсьветленай вадзе цёмнага става цешаць вока і весяляць.

У шыкоўнай срабрыстай машыне, што спынілася на чырвонае сьвятло каля майго аўтобуса, убачыў за рулём маладзенькую босую тайляндку. Яе маленечкія пантофлі ляжалі побач на сядзеньні, і гэта разьвесяліла.

Цешаць вока невялікія прыдарожныя будыйскія каплічкі. Асабліва кранаюць сэрца дары, пакінутыя Будзе: чарачкі з тайскім віскі, булачкі, цацкі, бутэлькі з кока-колаю.

Каля ўваходу ў краму, дзе прадаваліся аўтазапчасткі й вырабы з тоўстай чорнай гумы, сядзела маленечкая сіямская котка з блакітнымі вочкамі. На шыі ў коткі быў павязаны чырвоны абрэнчык са срэбным званочкам. Котка са званочкам павесяліла.

Вакол залаціста-стракатага каралеўскага палаца лётала процьма вялікіх матылькоў. Некалькі зь іх заляцела ў цемнаватую, урачыста-пурпуровую, тронную залю. Каралеўскі ахоўнік быў яўна незадаволены паводзінамі лёгкакрылых наведнікаў. А мяне якраз і пацешыла незадаволенасьць і раздражнёнасьць ахоўніка. Калі працягнуць тэму тайляндзкіх матылькоў, дык больш за ўсіх мяне разьвесяліў матылёк, які ўсеўся на лобе ў вялізарнай сланіхі.

## Дадае шчасьця...

Сьвежая белая кашуля.

Апрананьне наагул новых рэчаў паляпшае настрой.



Назіраньне за пераапрананьнем у абноўкі.

## Замілавальнае...

Невялічкія цацкавыя зьвяры, зробленыя з добрых і якасных матэрыялаў: драўляныя львы, лятунныя качкі, керамічныя коткі...

Старыя фатакарткі, хай сабе і з надламаным кутком, выклікаюць замілаваньне, асабліва калі на картачцы дзяўчаткі.

Хлопчык выклікае замілаваньне, калі выразна, на памяць чытае клясычны верш Максіма Багдановіча.

Замілаваньне агортвае сэрца, калі ўваходзіш у стары, зарослы дзедаў сад. У бацькавым садзе пачуцьці яркія, але замілаваньня не знаходзіш.

РАСЕЯ ЗБЛІЗКУ

# Турма: замкнёнае д'яблава кола

Паводле афіцыйных зьвестак, у 530 турмах і калёніях жорсткага рэжыму ў Расеі ўтрымваецца паўмільёна зьняволеных. У 160 установах зьняволеньня, якія разлічаныя на 167 тысячаў асобаў, у 1994 годзе знаходзілася 238 тысячаў.

"У расейскіх турмах людзі гадамі чакаюць суда", — піша нямецкая газэта "Wochenpost".

## "Хлебная" перапіска

Прадстаўнік ААН Найджэл Родлі два гады таму пабываў у Бутырскай турме. Яна пабудаваная ў 1771 годзе і разлічаная на 3500 арыштантаў. Цяпер там зьняволеных амаль удвая больш — 6300. Н.Родлі жахнуўся пры выглядзе камэраў. Замест 28 чалавек — амаль 100, як селядцоў у бочцы. Прыбіральня — тут сама.

"Віталь, Віталь!" — кліча мужа жанчына, якая стаіць перад турмою "Красты", якая знаходзіцца ў Санкт-Пецярбурзе, на беразе Нявы. Па вуліцы, якая аддзяляе масіўныя цагляныя сьцены ад астатняга сьвету, праносяцца аўтамабілі. А Віталь ужо паўтара года чакае суда.

Два гады ў турме ў чаканьні працэсу — звычайная для Расеі рэч. Юлія, жонка Віталя, бачылася за гэты час з мужам усяго тры разы і праз тэлефон размаўляла ня больш за гадзіну. Перапіска забароненая. "Тут проста плююць на законы", — абураецца жанчына і шпурляе сьнежкаю ў чырвоную турэмную сьцяну.

Але раптам на брук падае нейкая палка. "Гэта, напэўна мне!" — Юля чакае, пакуль праедзе машына, бяжыць і хапае палку. На канцы яе прылеплены сьлiною хлебны мякіш, а пад ім — кароткая цыдулка. Прачытаўшы яе, Юля ўзрадавалася: "Гэта мне!"

Жанчына кідае позірк на другі бок вуліцы. "Глядзі, там, наверсе! — крычыць яна. На чацвертым паверсе хтосьці махае рукою праз пралом у сьцяне. — Гэта мой муж!"

Такое пасланьне зьняволеныя прымацоўваюць да скручаных у трубку газэтаў, якія ім выдаюць замест прыбіральнай паперы. "Калі Віталь чуе, як я яго клічу, то кідае мне пасланьне", — распавядае Юля карэспандэнту "Wochenpost". Такія зносіны паміж імі доўжацца ўжо паўгода.

## Яны проста задыхаюцца

"Красты", як і ўсе астатнія расейскія турмы, страшэнна перапоўненыя. "У буйных гарадах на кожнага зьняволенага прыпадае менш за квадратны мэтар, а ў іхных камэрах — усяго паўмэтра", — такія зьвесткі прыводзіць Цэнтар рэформы турмаў Камісіі правоў чалавека ААН. Гэты Цэнтар займаецца абаронаю правоў зьняволеных у Расеі.

"У камэры запіхваюць па 70 чалавек, а паводле нормаў ААН павінна быць ня больш за 12", — кажа супрацоўнік цэнтру рэформы Рустэм Максудаў. Зьняволеным даводзіцца спаць па чарзе. На 70 чалавек — адна прыбіральня. Незалежна ад таго, якое злачынства было зьдзейсьнена, да суда ўсе утрымваюцца ў сьледчым ізалятары. Віталя за паўгода ні разу нават не дапытвалі.

У паўразбураным будынку "Крастоў", якому больш за сотню гадоў, сядзяць 10 тысячаў зьняволеных. Будынак не ацяпляецца. Вокнаў няма. У халодныя зімы заладоўваюцца нават самыя маленькія адтуліны ў сьцяне — дыхаць становіцца немагчыма.

"Калі адчыніліся дзьверы камэры, у нос шыбанула мешанінай тухласьці, поту, мачы, бруду", — так апісвае свае ўражаньні прадстаўнік Камісіі правоў чалавека ААН.

У Новакузьнецкай турме летась у ліпені за шэсьць сутак ад недахопу кіслароду памерлі 11 зьняволеных.

## Іх морацць голадам

"Умовы ў нашых турмах абсалютна агідныя. Суцэльнае мучэньне", — сказаў кіраўнік галоўнай управы выкананьня прысудаў МУС Расеі І.Калінін у інтэрвію амэрыканскай газэце "Los-Angeles Times".

А што да мучэньняў... Міністэрства ўнутраных справаў Расеі пасьля адмены ў 1988 годзе пакараньня голадам ізноў стала прымяняць яго са студзеня 1993 году. Харчаваньня не даюць тым, хто "дрэнна сябе паводзіць" — гэта значыць, скардзіцца на ўмовы ўтрыманьня.

Адных морацць голадам, іншых холадам. Расьціслаў Еўдакімаў, які ў маскоўскай Ляфортаўскай турме імкнуўся стварыць камітэт зьняволеных, быў пасаджаны ў "ледзяную адзіночку", бэтонныя сьцены якой нацертыя сольлю, таму там ня толькі халодна, але й сыра.

"Мяне прымушалі распранацца да бялізны й гадзінамі стаяць", — успамінае былы вязень. Са словаў другога "былога", а цяпер — старшыні цэнтру рэформы маскоўскіх турмаў Валерыя Абраміна, і жанчынаў утрымваюць у маленькіх вузкіх камэрах, дзе на кожную прыпадае ўсяго 0,5 квадратнага мэтра.



У камэрах кішаць мышы і пацукі. З-за антысанітарных умоваў турмы сталі крыніцамі інфэкцыяў.

Не хапае лекараў і лекаў. Канстанцін Ведзянееў, малады "бізнэсмэн" (так называюць сябе крымінальныя элемэнты і новыя расейскія прадпрымальнікі), у турме захварэў на сухоты. Калі яго арыштавалі, гэта быў здаровы, дужы мужчына 28 гадоў. Праз дзевяць месяцаў ён непазнавальна зьмяніўся і памёр у шпіталі турмы "Матроская цішыня".

Для паляпшэньня ўмоваў зьняволеньня расейскае кіраўніцтва хоча пабудаваць новыя турмы. Барацьбіты за правы чалавека ў Расеі асьцерагаюцца, што гэта толькі пагоршыць становішча зьняволеных: для стварэньня ў турмах больш-менш чалавечых умоваў не хапае пэрсаналу.

Камісія правоў чалавека Расейскай Фэдэрацыі патрабуе, каб пэрсанал ва ўстановах зьняволеньня быў кваліфікаваны і своечасова атрымваў заробак.

## Бяз даху над галавою

"Нядаўна Дума прыняла закон, у якім апроч іншага вядзецца гутарка пра павелічэньне колькасьці спатканьняў і перадачаў", — кажа Р.Максудаў. Але рэалізаваць яго нельга з-за адсутнасьці пакояў для спатканьняў, пэрсаналу. А зь перадачамі родным і блізкім зьняволеных даводзіцца гадзінамі стаяць у чарзе на вуліцы.

Пасьля выхаду на свабоду большасьць зьняволеных апынаюцца нібы між небам і зямлёю.

"Яны прыходзяць да нас, — кажа Валеры Сакалоў, кіраўнік санкт-пецярбурскага фонду дапамогі бяздомным і рэдактар прызначанай для іх газэты. Большасьць бяздомных у Санкт-Пецярбурзе — былыя зьняволеныя".

Вярнуўшыся пасьля жахлівых турэмных умоваў, яны адчуваюць сябе адарванымі ад грамадзтва. Уладкавацца на працу ня могуць без прапіскі. А той, хто не працуе, пазбаўляецца права на кватэру.

Былыя вязьні хутка папаўняюць шэрагі злачынцаў і рана ці позна зноў трапляюць туды, адкуль выйшлі. Гэта — замкнёнае д'яблава кола.

*(З друку)*



ФУТБОЛ

# Зьмена лідара

**КУБАК БЕЛАРУСІ. ФІНАЛ. ДЫНАМА (МЕНСК) — МВКЦ (МАЗЫР). 1:4**

Мазырскі МВКЦ — уладальнік Кубку Беларусі-96. Каманда падаравала сваім аматарам першую перамогу ў афіцыйных турнірах. У мінулую пятніцу адбылася зьмена лідара ў беларускім футболе. Былы лідар — менскае "Дынама" — саступіў дарогу новаму, пацярпеўшы заканамерную паразу. Парадак і ўзровень МВКЦ пабілі ўзровень "Дынама". Можна было меркаваць што "Дынама" прайграе. Але што прайграе ТАК!?

Здавалася, пачатак гульні паказаў поўную перавагу "Дынама". Менчукі кантралявалі сярэдзіну поля і мяч, ствараючы адзін момант за адным: Качура выходзіць сам-на-сам са Сьвірковым — удала дзейнічае на выхадзе галкіпэр. Праз хвіліну падобны момант мае Бялькевіч, але марудзіць з ударам. Ён жа б'е штрафны — крыху міма. Небясьпечна б'е Ўладзімер Макоўскі...

Першы больш-менш прыстойны момант мазырцы зладзелі стварыць толькі на 30 хвіліне гульні — Сяргей Яромка спрабаваў апярэдзіць Варывончыка. Пасьля гэтага "Дынама" мела яшчэ моманты тры — білі Міхал Макоўскі і Качура (тройчы). На 36 хвіліне Пётар прабіў такі Сьвіркова, але з афсайду.

Што робяць з тымі, хто не забівае? Слушна. 43 хвіліна гульні — Рамашчанка б'е штрафны. Удар быццам ня вельмі складаны, але памылка Варывончыка прыводзіць да першага голу. Алягічнае разьвіцьцё падзеяў працягваецца. Разгубленыя менчукі прапускаюць фірмовы кідок Гоманава з-за бакавой, і Яромка апярэджвае Варывончыка. У стане "Дынама" шок. 0:2 пры амаль абсалютным валоданьні сытуацыяй.

Другі пэрыяд быў падобны на першы, як дзьве кроплі. Хвілінаў дваццаць ішла аблога МВКЦ і на 65 хвіліне дынамаўцы, здаецца, дабіліся свайго. Чарняўскі прабіў нечакана для Сьвіркова. Але ўсе намаганьні атакі пахавала менская абарона. Яромка на 81-й хвіліне і Канавалаў на 90-й скарысталі падарункі "Дынама", выйшлі сам-насам зь Яўневічам.

Пэўныя высновы можна зрабіць. "Дынама" мае на сёньняшні момант выразную дыспрапорцыю ва ўзроўнях атакі і абароны. І калі ў гульнях са слабейшымі супернікамі гэта праходзіць, то з роўнымі ў клясе — не. Абарона "Дынама" згуляла правальна. Тры з чатырох мячоў яна магла й не прапускаць. Абарона МВКЦ, наадварот, вытрымала ціск праціўніка. Плюс да гэтага яскрава выявілася застарэлая хвароба менскай атакі. Зь дзясятка момантаў рэалізаваны толькі адзін. На гэтым фоне яшчэ больш выразна глядзелася атака МВКЦ. Зь пяці момантаў скарыстана чатыры. Экстра! Міжволі згадваецца Мілян Фабіё Капэлы.

МВКЦ у пятніцу зрабіла абгрунтаваную заяўку на чэмпіёнства і дубль. Зьмена лідара адбылася.

Андрэй Пятроў

© НАША НІВА Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая Наклад 5000 Нумар падпісаны ў друк 19.5.1996 Надрукавана ў ЗАТ "Lietuvos Rytas" (Вільня, праспэкт Гедыміна, 12а)

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010